PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 26 (1989) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 26 ЧЭРВЕНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*На канікулах чакае вучняў цудоўная прырода Беласточчыны.* Фота Я. Целушэцкага

*ВАСІЛЬ САКОЎСКІ*

## НОВЫ ЭТАП ГАЙНАЎСКАГА БЕЛЛІЦЭЯ

У верасні 1993 года распачаўся новы этап у жыцці Гайнаўскага беларускага ліцэя — пачалі вучыцца ў новым, прасторным, прыгожым будынку. На выгляд — гэта ўжо школа XXI стагоддзя і называецца цяпер: **II Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы.** Праўда, не ўсё ў новым школьным будынку было ўжо закончана-дапасавана, і таму на панадворку і ў сярэдзіне яе ўвесь час відаць было завіхаючыхся рабочых, чуваць пранізлівы візгат будаўнічай тэхнікі, упeрамежку з моцным пралетарскім слоўцам. Проста люба-здарова было паглядзець і паслухаць. Гэта ж таксама свайго роду школа. Падумаць толькі, пабудаваць такі гмашыска толькі за адзін год, тэмп капіталістычны, адным словам.

Новы школьны будынак развязаў нам многа важных праблем, а найважнейшая з іх — гэта набор новых вучняў. Калі раней мы маглі кожны год набіраць толькі два паралельныя класы, дык у мінулым школьным годзе набралі ўжо іх чатыры. У гэтым годзе маем кандыдатаў аж на пяць першых класаў. Значыць, не толькі палепшыліся нашы ўмовы, але і пачала хутка павялічвацца наша беларуская школьная сямейка.

І хоць не было яшчэ гімнастычнай залы (яе толькі цяпер пачалі будаваць), не закончаная школьная сталовая, мы вельмі рады і моцна ўдзячны нашым уладам і будаўнікам. Чэсць і слава будаўнікам капіталізму!

А цяпер крыху пра тое, як выглядаюць, так бы мовіць, інтэлектуальная і нацыянальная сферы ў нашым адноўленым ліцэі.

Інтэлектуальная або навуковая сфера маецца добра. Амаль усе, хто чатыры гады таму паступіў у першы клас ліцэя, дайшлі ў тэрміне да чацвёртага класа. Матуральных класаў было тры, а ў іх вучылася 65 абітурыентаў. Усе яны былі дапушчаны да матуральных экзаменаў, усе прыступілі да іх, усе паспяхова здалі пісьмовыя і амаль усе здалі вусныя іспыты, значыць атрымалі атэстат сталасці. Толькі тром з іх прыйдзецца здаваць паправачны экзамен і крыху пазней атрымаць атэстат сталасці.

Нацыянальная сфера маецца, на жаль, крыху горш і з кожным годам пагоршваецца. Справа ў тым, што нашы ліцэісты складаюцца з гарадской і вясковай моладзі. Намнога лягчэй навучаць і навучыць беларускай мове вясковую моладзь, бо амаль ва ўсіх нашых вясковых школах ад другога да восьмага класаў навучаецца гэты прадмет, бо ў сялянскай хаце і на сялянскай вуліцы нашага рэгіёна гавораць на беларускім дыялекце, веданне якога моцна дапамагае вывучыць беларускую літаратурную мову, бо вясковая моладзь больш дысцыплінаваная і працавітая. На вялікі жаль, вясковай моладзі штораз менш і менш трапляе ў ліцэй. Калі яшчэ не так даўно асноўнае ліцэйскае ядро складала вясковая моладзь, дык цяпер зусім наадварот. Гэтыя некарысныя тэндэнцыі надалей шпарка нарастаюць.

Маладыя, найбольш актыўныя, значыць і найбольш плодныя вясковыя хлопцы і амаль пагалоўна дзяўчаты ўцяклі і надалей уцякаюць у горад, як найдалей ад земляробства. У вёсцы астаюцца пенсіянеры і трохі хлопцаў. Пенсіянерам, як не дзіўна, не сексу галаве, а тое, як звязаць канец з канцом і не награшыць перад смерцю. Кавалерка, якая асталася на вёсцы можа і пасексавала б часам, але з кім, калі ўсе дзяўчаты ў горадзе? І як ім не выпіць у такой сітуацыі? А няма сексу — як вядома — не нараджаюцца і дзеткі. Вось і паміраe памаленьку наша бедная вёска. Шкада, ой як шкада! Гэта велізарная наша страта.

Гарадская моладзь поўнасцю спаланізаваная. У гарадскіх пачатковых школах беларускай мовы ў асноўным не вывучаюць. Дома і на вуліцы карыстаюцца толькі польскай мовай, у царкве чуюць царкоўнаславянскую і калечаную рускую мову. Вось і атрымоўваецца так, што ў першым класе ліцэя змушаны мы распачынаць навучанне беларускай мовы ад алфавіта, значыць, ад нуля. І гэта цягнецца за некаторымі аж да канца. Менш пільныя вучні і ў трэцім — чацвёртым класах аднесна слаба валодаюць жывой беларускай літаратурнай мовай. Нялёгка даюцца ім пісьмовыя працы, пераважна на вольныя тэмы. Пры аналізе літаратурных тэкстаў трэба спачатку тлумачыць значэнне некаторых слоў і выражэнняў, што часта гневае мацнейшых вучняў і напэўна нас, настаўнікаў. І нічога тут дзіўнага, што слаба ведаюць. Праз тры — чатыры гады школьнай навукі пазнаць добра мову проста немагчыма. Тым больш, што да навучання беларускай мовы надта ж убогенькая матэрыяльная база ў нас. Проста гвалтам патрэбны, напрыклад, польска-беларускія і беларуска-польскія слоўнікі. На жаль, першых на 350 вучняў маем толькі некалькі, і тыя моцна зачытаныя, бо трыццацігадовай даўнасці. Купіць іх цяпер проста немагчыма, а другіх і ўвогуле не маем, бо і не выдаваліся такія. Вось вам і праблема, а яна ж у нас не адзіная.

Чаму лічу, што мае быць горш? Таму, што наша беларуская вёска, якая давала і яшчэ пакрысе дае нам больш падрыхтаваных і саліднейшых у нацыянальным сэнсе вучняў, памрэ натуральнай смерцю, а гарадскія беларусы поўнасцю спаланізуюцца. Да гэтай пары спаланізавана ў асноўным толькі маладое пакаленне гараджан, а іх бацькі і дзяды, нядаўнія выходцы з вёсак, часта адчуваюць сябе яшчэ беларусамі і нават пры нагодзе дапамагаюць сваім дзецям і ўнукам зразумець беларускую мову і беларускія звычаі, традыцыю. Але калі нічога ў нашым беларускім нацыянальным напрамку не зменіцца на лепшае, то наступныя і бацькоўскія пакаленні беларусаў-гараджан стануць таксама абсалютнай нацыянальнай *tabula rasa*. Сумная гэта перспектыва.

☞ *Працяг на стар. 5*

## ПЕРШЫ, КАБ НЕ АПОШНІ

9 чэрвеня ў Нарве прайшоў агляд фальклорных абрадавых калектываў. Арганізавалі імпрэзу — Галоўнае праўленне БГКТ, супольна з мясцовым асяродкам культуры.

„Ідэя такога агляду з'явілася, калі заехалі мы ў Тыневічы, — сказаў у прывітальным слове старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі, — і пабачылі там такое багацце народнай абраднасці, што не паказаць яго ў час, калі яно гіне, было б нават і грэхам".

На ідэю адгукнуліся 11 самадзейных калектываў, але, на жаль, з-за розных прычын не ўсе змаглі прыехаць. Вясковым людзям — можна здагадвацца — цяжка адарвацца ад сваіх гаспадарак. Чаму не даехалі госці з далёкага Гданьска — невядома.

У Нарву аднак выбрацца было варта. Тым, хто бывае на аглядах беларускай песні, не трэба тлумачыць, які мастацкі ўзровень калектываў з Тыневіч, Краснага Сяла, Дашоў ці Ляўкова. Магу толькі запэўніць, што ў жанравых сцэнках адчувалі яны сябе на сцэне не горш, як у песні.

Напачатак з беларускімі песнямі выступілі нараўскія дзеткі. „Вельмі добра, што з намі тут дзеці, — сказала сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч, — яны могуць пабачыць сапраўдную нашую традыцыю, якая, на жаль, дажывае свой век". І сапраўды, кожны калектыў паказаў сцэнку з жыцця, ужо сапраўдзе былога, нашай вёскі. „Красуні" прыехалі з „Хрысцінамі", якія два гады таму можна было пабачыць у Беластоцкай філармоніі. Ляўкоўскія „Цаглінкі" паказалі, як раней пяклі перад вяселлем каравай. Дашы сыгралі сварку суседак з-за курэй ды адвечную тэму — сужыццё нявесткі з цёшчай у адной хаце. „Тыневічанкі" прывезлі з сабою розныя калаўроткі, развітушкі, сноўніцы, а нават малыя красёнцы. Адным словам прыйшлі, як гаворыцца ў Тыневічах, „на покуделе".

Усе групы выступілі цудоўна. Ігралі лёгка, свабодна, без ніякіх цяжкасцяў завязваўся поўны кантакт з публікай. Гумар і прыгожыя народныя песні былі сталым элементам выступленняў. Але тое, што паказалі „Тыневічанкі", гэта проста клас!

Жанчыны як быццам нічога іншага ў жыцці не рабілі, толькі ігралі на сцэне. Без ніякага рэжысёра ці проста мастацкага кіраўніка — здавалася, сапраўды сабраліся ў нейкай хаце, спявалі, жартавалі. Натуральны, беспрапынны дыялог, сакавіты народны гумар (можа не заўсёды для дзіцячых вушэй). Вось пробка: „мое куолко (калаўротак), то шчэ знаетэ, дісд робіў, ой добры майстэр быў, штыры дочкі меў". Або, вось якімі словамі запрашае гаспадыня перакусіць: „діўчынята, давайтэ повэчэраем, бо ўжэ зараз пуоўноч, а кажут, што ў пуоўноч нэ здорово есті". А калі стаўляе на стол гліняныя міскі: „то можэ і нэ з гожого, але коліс усэ з брыдкого посуду елі і здоровейшы былі". Мая рэдакцыйная сяброўка Гандзя Кандрацюк магла б узбагаціць свае веды па народнай магіі, хаця б такой парадай: „як пуойдэтэ додому, трымайтэся правой коліны, то нішто нэ звэдэ".

☞ *Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Straciłeś żonę, pracę i pieniądze. Co ci pozostaje? Zostań politykiem! Również fakt, że jesteś chory psychicznie czy cierpisz na niedorozwój umysłowy w karierze politycznej ci nie zaszkodzi.*
(Polityka, nr 22)

* * *

*Teraz jest czas przekupnego parlamentu i zdradzieckiego króla, jak w XVIII wieku,* — **заявіў славуты палітык і патрыёт Антоні Мацярэвіч.**

*Potrzebny jest sojusz Kościoła, „Solidarności" i prawicy,* — **заклікае знакаміты стратэг Ян Парыс.**

*Wałęsa to zwykły zdrajca. Rodzice dzisiejszych polityków z Unii Wolności wyrywali Polakom paznokcie, a dzisiaj utworzyli „Gazetę Wyborczą" i „Nie". Wmawiają nam, Polakom, że mamy być państwem obywatelskim, ale ja nie chcę państwa obywatelskiego, ja chcę państwa narodowego,* — **дамагаецца зорка салідарніцкага руху Зыгмунт Вжодак.**
(Rzeczpospolita, nr 129)

**Як бачым, узровень палітычнай думкі ўзрастае з году ў год.**

* * *

*85,9% Polaków wypowiada się za obowiązywaniem w Polsce kary śmierci i za jej wykonaniem w każdym przypadku jej orzeczenia. Przeciwnego zdania było 14,1%.*
(Polityka, nr 23)

**Польшча — край каталіцкі, але ці хрысціянскі?**

* * *

*Trybunał Konstytucyjny orzekł, że zapisy o respektowaniu wartości chrześcijańskich w radiu i telewizji są zgodne z Konstytucją RP.*
(Kurier Poranny, nr 111)

**Гэта сапраўды шчасце, бо існавала ўжо пагроза, што ў тэлебачанні зноў пачнуць паказваць жанчын апранутых у сукенкі міні.**

* * *

*W październiku woda i centralne ogrzewanie zdrożeją o 30%.*
(Gazeta Współczesna, nr 108)

**Што за розніца плаціць за кватэру 2 ці 2,5 мільёна, калі чалавек зарабляе 1,9 млн. зл.**

* * *

*Jeszcze trochę i „Solidarność" zażąda odwołania prywatyzacji, nacjonalizacji przemysłu, wprowadzenia cenzury i przewodniej roli partii oraz kartek na buty, papierosy i makaron, powrotu do godziny policyjnej. A potem znów zacznie upominać się o wolność, o godność, o sens pracy i t.p.*
(Wprost, nr 19)

* * *

*Kościół stanowi piękną symbiozę z narodem i nie pcha się do polityki,* — **сказаў прэзідэнт Лех Валэнса.**
(Kurier Poranny, nr 112)

* * *

*Polacy z Kazachstanu z sentymentem wspominają obraz breżniewowskiej stabilizacji. Za czasów Związku Radzieckiego nikt nie chciał wyjeżdżać do Polski. Obecnie wyjeżdżać chcą przede wszystkim młodzi, ale nie tylko do Polski, lecz także do RFN i USA.*
(Rzeczpospolita, nr 131)

**Усе савецкія народы сумуюць па сваёй дзяржаве.**

* * *

*Prymas Józef Glemp i bp Leszek Głódź w swoich homiliach działalność i postawę Andrzeja Boboli, Romualda Traugutta i żołnierzy spod Monte Cassino określili jako świadectwo wierności Ewangelii broniącej godności człowieka i prawdziwej wolności ojczyzny... Na cmentarzu pod Monte Cassino leżą polegli za wolność ojczyzny prawosławni żołnierze. Przeważają nazwiska białoruskie i ukraińskie. Oddając swe życie „za prawdziwie wolną ojczyznę" żołnierze ci wierzyli, że ojczyzna, ich matka, uszanuje każdego. Jak przyjęliby próbę połączenia ich ofiary ze śmiercią Andrzeja Boboli, jezuity nawracającego prawosławnych na katolicyzm?*
(Przegląd Prawosławny, nr 6)

**Евангелле не першы раз успрымаецца дзеля маральнага асэнсавання мілітарных дзеянняў. Недзе ў палове XVII стагоддзя, спасылаючыся на Евангелле, выразалася палова жыхароў Еўропы. Не кожнаму слова „Евангелле" і цяпер абазначае пакорлівасць, сяброўскія адносіны да ўсяго свету, гатоўнасць прабачэння ўсім і за ўсё, але часцей успрымаецца як дапаможная вайсковая літаратура.**

* * *

*„Nie" ogłosił zbiórkę pieniędzy na pomnik pijaka, upamiętniający trud patriotów, którzy szafując swoimi nerkami, płucami, żołądkami i mózgami piją na chwałę i pożytek Rzeczypospolitej.*
(Polityka, nr 24)

* * *

*Egzamin maturalny nie wymaga wiedzy ale sprytu.*
(Wiadomości Kulturalne, nr 1)

**Інакш тут яшчэ ніколі не было!**

* * *

*20-letniemu synowi prezydenta Przemysławowi Wałęsie Sąd zarzuca spowodowanie wypadku w stanie nietrzeźwym, napaść na funkcjonariusza policji, czynne i słowne znieważanie, oplucie, rzucanie obelg, utrudnianie postępowania, ucieczkę z miejsca wypadku. Na liście pokrzywdzonych jest 8 osób w tym jedna kobieta.*
(Rzeczpospolita, nr 131)

**Лех Валэнса абяцаў, што ніводзін з яго сыноў не стане кандыдаваць у найбліжэйшых прэзідэнцкіх выбарах. Трохі шкада, бо была б цікавая выбарчая кампанія.**

* * *

*Kombatanci domagają się zdymisjowania Kierownika Urzędu d.s. kombatantów Adama Dobrońskiego i całkowitego zwrotu kosztów wyjazdu na Monte Cassino.*
(Gazeta Współczesna, nr 105)

**Адам Чэслаў, здаецца, зноў будзе вымушаны пісаць пра ўланаў на конях, бо з уланамі на пенсіі не можа дагаварыцца. Тыя першыя патрабавалі толькі шаблі... і ворагаў, другія — дамагаюцца перш за ўсё грошай.**

* * *

***Быць ці не быць дагавору аб аб'яднанні грашовых сістэм з Расіяй цяпер залежыць ад вынікаў выбараў прэзідэнта ў Беларусі — заявіў Вячаслаў Кебіч. Ён падкрэсліў, што гэта саюз, які падпісваецца на векі.***
(Голас Радзімы, н-р 21)

**Гаспадзін Вячаслаў Францавіч такім чынам увойдзе ў гісторыю як першы палітык, які маючы поўную ўладу ў краіне, добраахвотна аддаў яе ўраднікам суседняй дзяржавы.**

# З мінулага тыдня

**Урачыстае аднаўленне дзейнасці Праваслаўнага палявога ардынарыята ў Войску Польскім** адбылося 12 чэрвеня г.г. у Святамікалаеўскім саборы ў Беластоку. Перад набажэнствам, якое служыў мітрапаліт **Васілій** у саслужэнні іерархаў нашай Царквы, праваслаўнага ардынарыя архіепіскапа **Саву** прывітала ганаровая варта Беластоцкага гарнізона. Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі, між іншым: віцэ-маршалак Сейма **Аляксандр Малахоўскі**, віцэ-прэм'ер **Владзімеж Цімашэвіч**, віцэ-міністр нацыянальнай абароны **Ежы Мілеўскі**, каталіцкі ардынарый ВП генерал дывізіі **Лешэк Славой Глудзь**, ваявода **Станіслаў Пруціс**.

**Рада Міністраў** вырашыла ўвесці ўраўняльную аплату для імпарцёраў свініны, птушынага мяса, малака, смятаны, мукі, алею, агуркоў і таматных прадуктаў. Рашэнне прынята з мэтай абараняць сваю сельскагаспадарчую вытворчасць.

**Міністр нацыянальнай абароны Пётр Каладзейчык**, адкрываючы ў Варшаве трохдзённы міжнародны семінар „Цывільны і дэмакратычны кантроль узброеных сіл" сцвердзіў, што Польшча не можа згадзіцца на тое, каб у праграме „Партнёрства дзеля міру" нейкая дзяржава трактавалася ў прывілеяваны спосаб. На яго думку, у гэтым мерапрыемстве павінны абавязваць аднолькавыя для ўсіх прынцыпы.

**Папа Ян Павел II**, адкрываючы ў Ватыкане пасяджэнне V нечарговай кансісторыі ў справе падрыхтоўкі да юбілею двух тысячагоддзяў хрысціянства, заклікаў хрысціян да большай самакрытыкі і прызнання сваіх гістарычных памылак перад 2000 годам.

**Чыноўнікі з Чэшскага-Цешына** знялі ў мясцовасці Кантэшынец мемарыяльныя дошкі, устаноўленыя гуртком польскіх ветэранаў у гонар мясцовых палякаў, якія загінулі ў лагерах НКУС і ў баях пад Монтэ-Касіна. Прычынай такога рашэння стала прымяненне ў надпісах польскай мовы і тэрміна Заользе.

**Аўгустаўскі канал** — турыстычны шлях, спалучаючы Польшчу і Беларусь. Гэтай тэме быў прысвечаны польска-беларускі семінар, які адбыўся ў мясцовасці Аканювэк Ломжынскага ваяводства. Падрыхтоўка аднавіць суднаходства на канале праз граніцу вядзецца ўжо год. Найбольш часу і грошай спатрэбіцца на рэканструкцыю шлюзаў на беларускім баку. Удзельнікі семінара ўказвалі на патрэбу адкрыць новы гранічны пераход у ваколіцах Дубровы-Беластоцкай.

**Дзеячы Таварыства прыяцеляў Гродна і Вільні**, пераважна з Варшаўскага, Беластоцкага і Элцкага аддзелаў, судзяцца з Краёвым праўленнем, выбраным на апошнім з'ездзе гэтай арганізацыі. Патрабуюць яны прызнаць з'езд і прынятыя на ім рашэнні несапраўднымі, паколькі ў яго ходзе быў парушаны статут арганізацыі і закон. ТПГіВ — самае вялікае крэсовае таварыства ў Польшчы. Яе асноўная мэта — дапамагаць палякам у Беларусі, Літве і Латвіі, падтрымоўваць адраджэнне там польскай мовы і культуры. Арганізацыя карыстаецца дзяржаўнай датацыяй. Напрыклад, Варшаўскі аддзел ТПГіВ атрымаў аднаразова 1 млрд. злотых ад Рады Міністраў.

**Шэфы двух настаўніцкіх прафсаюзных структур у Беластоку** — ЗНП і „Салідарнасці" — выводзяцца з Меліярацыйнага тэхнікума, які абавязаны плаціць ім штомесячную зарплату. Школе бракуе ў бягучым годзе 105 млн. зл., калі абодва прафсаюзныя дзеячы будуць каштаваць школу 150 млн. злотых. Спроба дырэкцыі тэхнікума перакінуць гэты абавязак на прафсаюзы сустракае перашкоды, паколькі закон аб прафсаюзах наказвае плаціць той школе, у якой раней працаваў выбраны на функцыю настаўнік.

**Ян Смык** — рэпарцёр Беластоцкага радыё — атрымаў „Залаты мікрафон", самую высокую прафесійную ўзнагароду за сукупнасць рэпарцёрскай творчасці.

**Сяргей Мартынюк** — уласнік фірмы „Пронар" з Нарвы, апынуўся на 50 месцы на спіску ста найбагацейшых бізнесменаў у Польшчы. „Пронар" займаецца зборкай трактароў, выпускаемых Мінскім трактарным заводам, гандлюе палівам і прадае сельскагаспадарчыя прадукты ў краіны СНД. Гадавы абарот фірмы склаў амаль паўбільёна злотых.

**У Юшкавым Грудзе** 20-гадовая дзяўчына выпала (або яе выкінулі) у час язды з легкавой машыны, калі ў кампаніі вярталася з вяселля. Хуткая дапамога пакалечаную дзяўчыну адвезла ў бальніцу, а паліцыя ўзбудзіла следства.

**Гайнаўская** паліцыя злавіла ў гарадскім аўтобусе саракагадовую зладзейку, якая ўкрала падлетку гадзіннік.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ „У НІВЕ"

→ Беларусь патрабуе зменаў.

→ Жабракі ці ашуканцы стукаюць у нашы дзверы?

→ Яшчэ раз пра Віленскую гімназію.

→ Парады гаспадарам і закаханым.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Няроўныя магчымасці

Назіральная рада пры Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта выступіла з заявай у справе фактаў парушэння Беларускім тэлебачаннем пастановы Савета Міністраў і Цэнтральнай камісіі аб парадку выкарыстання сродкаў масавай інфармацыі ў забеспячэнні роўных магчымасцяў для перадвыбарчых выступленняў кандыдатаў у прэзідэнты. У заяве ў прыватнасці гаворыцца, што 2, 3 і 4 чэрвеня, у не вызначаны графікам час тэлебачаннем былі перададзены ў запісі тры выступленні, якія змяшчаюць элементы перадвыбарчай праграмы кандыдата ў прэзідэнты Вячаслава Кебіча. Іншыя прэтэндэнты такой магчымасці не мелі. Рада лічыць гэты факт парушэннем палітычна-маральных нормаў здольных прыцягнуць канфліктную сітуацыю.

### Юбілей пісьменніка

19 чэрвеня Васілю Быкаву споўнілася 70 гадоў. Росквіт таленту пісьменніка выпаў на 60—70-тыя гады, калі працаваў ён у Гродне. З нагоды юбілею гродзенская Абласная бібліятэка імя Яўфіма Карскага падрыхтавала шэраг мерапрыемстваў. У іх ліку: абмеркаванне адной з апошніх аповесцей „Сцюжа", выстава выданняў аўтара, дэманстрацыя відэафільма „Васіль Быкаў — праўдай адзінай", агляд выданняў „Быкаў у мастацтве", відэафільм паводле аповесці „Знак бяды", вечарыны, прысвечаныя жыццю і творчасці пісьменніка.

### Свае ўзнагароды

Беларусь будзе мець свае ордэны і медалі. Якімі яны будуць, як будуць выглядаць і як называцца, парламентарыі вырашаць на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета, якая пачне работу ў сярэдзіне ліпеня. Рэкамендаваць на ёй законапраект аб дзяржаўных узнагародах дэпутаты вырашылі на Кансультатыўным савеце, які аднавіў працу па рашэнню Прэзідыума ВС.

### Прэтэндэнт баіцца цэн

У Доме ўрада 7 чэрвеня адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Савета Міністраў, на якім абмеркавана шэраг важных пытанняў сацыяльна-эканамічнага жыцця рэспублікі. Кіраўнік урада, а заадно прэтэндэнт на пост прэзідэнта Вячаслаў Кебіч, рэзка асудзіў акты неабгрунтаванага, на яго думку, павышэння цэн на некаторыя тавары штодзённага попыту. Прычым, падкрэсліў прэм'ер-міністр, такое павышэнне часта адбываецца ў тых мясцовасцях і ў тыя дні, калі туды прыязджаюць для сустрэчы з насельніцтвам і працоўнымі калектывамі члены ўрада. У якасці прыкладу быў прыведзены Навагрудак, у магазінах якога раптоўна з'явіўся цукар па 16 тысяч рублёў за кілаграм. Такія факты назіраліся і ў Полацку, і ў іншых мясцовасцях. Усё гэта выклікае незадавальненне насельніцтва, хоць урад у тым не вінаваты. Вячаслаў Кебіч такія павышэнні назваў правакацыяй і паабяцаў зацугляць іх пры дапамозе Дэпартамента цэн.

### Перадвыбарчая каўбаса

А літаральна на другі дзень Савет Міністраў сваёй пастановай узяў на цуглі гандлёвыя надбаўкі і ўрэзаў іх на 10%. У выніку з 9 чэрвеня на 15% знізіліся цэны на некаторыя харчовыя тавары. Напрыклад, вараная каўбаса, за кілаграм якой прыходзілася выкладаць 28 700 руб., цяпер каштуе амаль на 4,5 тысячы танней. На тры тысячы менш трэба плаціць за кілаграм ялавічыны і на 3,5 тыс. свініны. Змяніліся цэннікі на хлеб і хлебабулачныя вырабы. Прывыклы да пастаяннага росту цэн народ прыняў гэтае рашэнне як сенсацыю і цяпер задумоўваецца, што адбудзецца з цэнамі пасля выбараў.

### Карабейнікі-экспарцёры

Працягваецца масавы вываз прадуктовых тавараў у Расею. У Гомелі ў выхадныя дні практычна ўсе турысцкія аўтобусы заняты дастаўкай турыстаў-гандляроў у Бранскую і іншыя суседнія расейскія вобласці. Свой уклад у гэтую справу ўнеслі і чыгуначнікі, увёўшы дадатковы цягнік Гомель — Бранск. Цікава, што ў бок Расеі ён будзе хадзіць у пятніцу і суботу, а назад — у нядзелю. Так што на расейскіх базарах супертанных харчовых тавараў з Беларусі будзе прыбаўляцца.

### Прыпыненне "Свабоды"

Працягваецца змаганне з незалежнай думкай. Пасля выхаду 22 н-ра "Свабоды", урадавая друкарня Дом друку паведаміла рэдакцыю аб скасаванні дагавора. Чарговы нумар газеты выйшаў са спазненнем, паколькі друкаваўся ён у правінцыйнай друкарні — 230 км ад Менска. У Беларусі ўся паліграфія дзяржаўная і рэдакцыя апасаецца каманды зверху, якая можа закрыць ёй дзверы ўсіх друкарань у рэспубліцы.

### Прызнанне для кінематаграфістаў

Зняты беларускімі кінематаграфістамі дакументальны фільм „Чарнобыль і Беларусь" быў прызнаны адной з самых яркіх работ, прадстаўленых на міжнародным фестывалі экалагічнага кіно ў Ізраілі.

# ПРАБЛЕМЫ З КАМАСАЦЫЯЙ

Нядаўна ў Кляшчэлях закончылася ліквідацыя цераспалосіцы. Як у кожнай мясцовасці, так і ў гэтым горадзе, пры перадзеле зямлі ўзніклі канфліктныя сітуацыі і частка сялян не пагадзілася з вынікамі працы геадэзістаў. З тае прычыны паплылі скаргі Беластоцкаму ваяводу. Адзін мой знаёмы, які таксама апынуўся ў групе незадаволеных сялян, тлумачыў мне, што ўраднік паасобных дзялянкі запісваў несправядліва. Католікам даваў ён лепшыя грунты, а праваслаўным абы-якія. Некаторым дык нават забіраў іх даўнейшыя ўчасткі, і даваў горшыя.

Калі Ваяводскае бюро геадэзіі з Беластока назначыла тэрмін разгляду скаргаў сялян на 9 мая г.г., у рэдакцыю ўвечары паступіў званок ад чытача: „Прыязджайце ў Кляшчэлі! Пакрыўдзілі нас, самі ўбачыце мноства слёз!" Журналісту „Нівы", аднак, не давялося ў той дзень пабываць у Кляшчэлях. Але даведаўшыся пра гэта, я сам зацікавіўся справай. І вось я ў кабінеце Аляксандра Сяліцкага — бурмістра Кляшчэляў.

— Мы не маем дакументаў адносна камасацыі, — гаворыць бурмістр. — Займалася гэтым Раённая геадэзія з Гайнаўкі, а скаргі сялян знаходзяцца ў Ваяводскім бюро геадэзіі ў Беластоку. Магу адно сказаць, што на так аграмаднае мерапрыемства, якім была ліквідацыя цераспалосіцы, 40 скарг гэта адносна невялікі працэнт, калі лік ідзе ў некалькі соцень гаспадарак. Ёсць напэўна абгрунтаваныя скаргі і, мабыць, камісія прыхіліцца да патрабаванняў сялян. Аднак, будуць і такія асобы, якія рашэнні Ваяводскага бюро геадэзіі палічаць несправядлівымі і будуць яны апеляваць у Вышэйшы адміністрацыйны суд у Варшаве. Так заўсёды бывае...

**УЛАДЗІМІР СІДАРУК**



**Панарама Янкі Целушэцкага**

Нядаўна мой знаёмы і заадно прыхільнік „Нівы" параіў мне, каб я ў сваіх допісах перакінуўся на гаспадарчую тэматыку і пісаў так, як піша Янка Целушэцкі. Высока ацаніў ён ягоныя панарамы гмінаў, асабліва апошняй, Міхалоўскай. Сцвердзіў ён, што яго цэлая сям'я і знаёмыя ў першую чаргу чытаюць менавіта гэтыя панарамы. Свайму сябру я адказаў, што яго прапанова спакуслівая, але не на мае сілы: спадар Я. Целушэцкі — чалавек вучоны і мае тую цярплівасць, якая патрэбная для гартання шматлікіх папераў у розных установах у пошуках патрэбных матэрыялаў. Да таго ж трэба гутарыць і кансультавацца з многімі і многімі людзьмі.

Для многіх чытачоў займальнай з'яўляецца тапанімія — тлумачэнне мясцовых назваў. Аўтар апісвае, адкуль узяліся назвы кожнай з вёсак у гміне. Вельмі цікава! Вось і я сам, а таксама і многія ў нас, не ведаюць, адкуль узялася назва вёскі Дубічы-Царкоўныя. Думаю, што Я. Целушэцкі, калі будзе пісаць панараму Дубіцкай гміны знойдзе і на гэта адказ. Ён тонкі майстар і спецыяліст у гэтай галіне. Жадаю яму далейшых поспехаў у гэтай працы, плёнам якой з'яўляюцца зацікаўленне і пахвалы з боку чытачоў.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

* * *

**Дарагая „Ніва"!**

Чытаючы „Панараму Міхалоўскай гміны", зацікавіла мяне паходжанне назваў вёсак і падумалася, што добра было б высветліць назву вёскі Зубрыца (Zubrzyca), што ў Шудзялаўскай гміне. Мяне асабліва цікавіць шляхецкая Зубрыца Малая (ёсць яшчэ і Вялікая), бо ў ёй пражываюць Зубрыцкія (Zubrzyccy). Ці назва выводзіцца ад самкі зубра — зубрыцы? Калі так, то яе радаслоўная беларуская, бо па-польску назва гэтая гучала б Жубжыца (Zubrzyca). У згаданай вёсцы апрача Зубрыцкіх жывуць Слуцкія і Эйсманты. Было калісьці пяць сем'яў Слуцкіх. Як яны тут апынуліся? Ці не з-пад Слуцка яны? Мне здаецца, што назва вёскі паходзіць ад зубра, які водзіўся ў тамашніх лясах. Яшчэ ў 1925 годзе ў жыхароў вёскі былі звярыныя мянушкі. Зубрыцкага называлі Слонам, а паасобных Слуцкіх — Ліс, Воўк, Мядзведзь. Думаю, што Я. Целушэцкі павінен напісаць „Панараму Шудзялаўскай гміны", а ў ёй і пра Зубрыцу Малую. Цікава будзе прачытаць пра нашую ваколіцу.

**Э. ШЧАСНОВІЧ**



*ВІКТАР ШВЕД*

**ЧАСАМ ДА ШЧАСЦЯ МАЛА ТРЭБА**

Калісьці ў летнюю нядзелю  
Я са знаёмаю асобай  
У гарадскім натоўпе селі  
На перапоўнены аўтобус.

Знаёмы адазваўся гэтак,  
З настроем радасна-прыўзнятым:  
„А я ўжо езджу без білета!"  
(Скончыў ён год семдзесят пяты).

Сэрца маё засумавала:  
Усім вядома ўжо спрадвеку,  
Як жа да шчасця вельмі мала  
Трэба старому чалавеку...

# ПЕРШЫ, КАБ НЕ АПОШНІ

☛ *Працяг са стар. 1*

Розных мудрасцяў і вастраслоўяў мог бы я запісаць і больш, але ўвесь час трымаўся са смеху то за жывот, то за крэсла, каб з яго не зляцець. А потым еў вельмі смачныя бліны з макам (патыневіцку „палюшкі"), якімі частавалі артысткі. Іншыя калектывы таксама кармілі гледачоў то караваем, то пячэннем, а то яшчэ іншым салодкім ласункам. Уся зала прысутнічала ці то на вяселлі, ці на хрысцінах, ці на пакудзеллі.

Адно шкада, на мой погляд, што арганізатары адмовіліся ад першапачатковых планаў і не сарганізавалі гэтага паказу ў Тыневічах. Наўрарад ці, як было відаць, не вельмі такі агляд зацікавіў, а ў Тыневічах народ прыйшоў бы напэўна (было якраз Ушэсце). Ды і месца ў школьным будынку хапіла б. А як цудоўна магло б быць пад старой яблыняй ля школы!

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## ВАДЫ ПАБОЛЬШАЛА...

Адкуль перасялілася я з Семяноўкі, два гады не была ўжо над вадасховішчам і не хадзіла той дарогай, якая калісьці вяла ў Тарнопаль і далей каля Дворыска ў Луку. У апошнюю нядзелю мая, калі я прыехала наведаць маму, запрапанавала мне яна паехаць з ёю туды, дзе збірае зёлкі. Вельмі змянілася тое месца, дзе калісь былі хутары Семяноўкі — Біндзюга. Засталася толькі частка дарогі, што вяла праз хутары, тры дамы — два драўляныя і адзін мураваны, у якім калісьці жыў мой сябра з пачатковай школы. Памятаю, як усе бедавалі, што знішчэ такі дом, бо хто ж купіць мураванку.

Дом гэты, аднак, не знішчаны, яго адрамантавалі — паклалі тынкі і памалявалі белым, прыставілі з двух бакоў сходы, ад боку вадасховішча паставілі прыгожы ганак, дах пакрылі бляхай. Калі нікога няма ў гэтым доме, вокны заслонены карычневымі ваканіцамі. Адрамантавалі таксама склеп для бульбы. Глянеш — не тое месца! І падворак агароджаны зялёнай сеткай, вакол агароджы пасаджаны лістоўніцы. Засталіся расці ліпы, бярозы. Няма тут толькі старой яблыні, на якой два гады таму раслі смачныя яблыкі.

У гэтым доме цяпер метэаралагічная станцыя, вадамераўка, ваяводскай ўправы воднай гаспадаркі. Хто ж мог падумаць, што на апусцелым месцы каля Семяноўкі такое будзе?

Там, дзе два гады таму бацька майго калегі пасвіў кароў, усё заліта вадой. Цяпер там можна спаткаць рыбакоў з вудачкамі. Плаваюць пантонныя і парусныя, а ад 1 чэрвеня можна ўжо плаваць на маторных лодках.

Трэцяя частка дарогі, што вяла ў Тарнопаль і Луку, заліта вадой.

Вады ў нас пабольшала. Людзей таксама — турыстаў.

**АЎРОРА**

# Чыжоўскія музыкі

Чыжы — гэта той нешматлікі на нашай Беласточчыне вясковы асяродак, які развіваецца. Сам выгляд вёскі не ўпісваецца ўжо ў стэрэатып уявы пра апусцелую Усходнюю Сцяну. Мясцовасць дагледжаная ды ёсць у ёй моладзь. Доказам гэтай маладосці вёскі з'яўляецца, хаця б, вялікае ўдзельніцтва дзіцячых музычных гурткоў у конкурсах, арганізаваных Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Але Чыжы гэта таксама і паўсюдна вядомы, у большай ці меншай ступені, дарослы калектыў „Чыжавяне". Яго інструктарам ад лістапада 1991 года з'яўляецца *спецыяліст першага класа* (так паведамляе таблічка на дзвярах Дома культуры ў Чыжах) Анатоль Куніцкі з Беларусі.

Пра сябе і свой жыццёвы шлях да таго, як з'явіўся ён у Чыжы кажа так. Нарадзіўся ў вёсцы Самойлаўшчына Дзятлаўскага раёна. Васьмігодку закончыў у гарадскім пасёлку Казлоўшчына. Пасля яе, без музычнай падрыхтоўкі, паступіў у гродзенскае Музычна-педагагічнае вучылішча на аддзяленне харавога дырыжыравання. Пасля чатырох гадоў вучобы застаўся на той жа вучэльні працаваць — як выкладчык па класу баяна. Працаваў там дваццаць гадоў. У далейшым перайшоў на кафедру музыкі Гродзенскага універсітэта. У гадах 1971-76 завочна вучыўся ў ленінградскім Інстытуце культуры (аркестравае дырыжыраванне). І толькі ў гадах 1978-82, у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі ў Менску, зрабіў тую спецыяльнасць, у якой пачаў сваю прафесійную працу — настаўнік па класу баяна. У 1991 годзе здаў кандыдацкі экзамен.

— На Беласточчыне, — кажа Анатоль Куніцкі, — я ўбачыў цікавую крыніцу музычнага матэрыялу. Хаця спецыялістам па фальклору я не з'яўляюся, то мне гэтая справа да таго ўцягнула, што вырашыў я, як беларус, аддаць год свайго жыцця дзеля яе. Грошай вялікіх тут, вядома, не заробіш. Мая агульная думка пра вашу музычную культуру тут такая — з аднаго боку культура гэтая даволі нізкая. Я быў вельмі здзіўлены, калі ўпершыню прыехаў сюды з хорам на Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўку, што горад гэты не мае сваёй музычнай школы. З другога ж боку, мяне вельмі ўразіла, у станоўчым сэнсе, зацікаўленасць песняй і цяга да яе. Гэта галоўная прычына таго, што я вырашыў папрацаваць тут і дапамагчы людзям. Калі ідзе пра маю працу з „Чыжавянамі", то я спачатку пачаў рабіць з імі вельмі складаныя апрацоўкі. Папрацавалі мы салідна, харысты, можна сказаць, займелі вышэйшы ўзровень, але эфект у час выступленняў не адпавядаў гэтаму ўкладу працы. Таму я вырашыў вярнуцца да вытокаў ды не працаваць над апрацоўкамі, а над выканаўчым планам песні. На жаль, ёсць тут пэўнае незразуменне — у час аглядаў калектывы выступаюць у катэгорыях апрацаваны фальклор і неапрацаваны. Маю працу з „Чыжавянамі" чамусьці ўспрымаецца на аглядах як апрацаваны фальклор, калі па сутнасці гэта ўсяго праца над выканаўчым планам песні, а не над музычным матэрыялам. Гэта, аднак, не найважнейшае. Атмасфера ў нас добрая, у намерах запісы песень на касету.

Анатоль Куніцкі даязджае яшчэ ў Нараўку, дзе працуе з тамашнім музычным калектывам, а таксама ў школу ў Кленікі, дзе вядзе ўрокі музыкі. Фармальным працадаўцам А. Куніцкага з'яўляецца чыжоўская гміна. Дамова на працу канчаецца ў жніўні гэтага года. Што ж, выпадае толькі пажадаць, каб наступная Гмінная рада ў Чыжах у такой жа ступені дбала пра культуру, што і цяперашняя. Узровень навучання мастацкіх прадметаў у нашых школах не надзвычайны, таму і кожную нагоду забяспечыць школы ў спецыяліста па музыцы трэба выкарыстаць, бо музыка — лічыць А. Куніцкі, — так сама важная, як і матэматыка. Свой погляд на гэтую справу прадставіў ён у кастрычніку мінулага года на старонках „Чыжоўскай газеты" так: калі стаўленне бацькоў і настаўніка да артыстычнай адукацыі дзіцяці супадае, атрымліваецца тая гармонія, якая вядзе да адпаведнай якасці — чалавека культурнага.

**АЛЕСЬ МАКСІМЮК**



*Анатоль Куніцкі (першы справа) з "Чыжавянамі" на фэсце ў Чыжах у жніўні 1993 года.*

 

# „ШЧЭ НЭ ВМЭРЛА УКРАЇНА”

*(працяг; пачатак у папярэднім нумары)*

**Цэнтр дзіцячай культуры**

Украінскія арганізатары пабыўкі нашай дэлегацыі ў Кіеве, а асабліва пані Валя Туцік — галоўны каардынатар пастараліся на пачатку паказаць нам культурнае жыццё сталіцы. У суботу 28 мая паказалі нам Цэнтр дзіцячай культуры ў Мінскім раёне горада. Тое, што мяне асабліва ўразіла, гэта не дзіцячае мастацтва, але шчырасць і адкрытасць у кантактах працуючых там людзей. Недзе пасля гадзіннай там пабыўкі мы сядзелі пры каве і гаварылі, як старыя знаёмыя. Неўзабаве пачалі спяваць — як аказалася — амаль усім вядомыя песні, якія я акурат ведаў у беларускамоўным выкананні. Прыгожыя маладыя інструктаркі танцаў і пажылая прыбіральшчыца расспявалі кампанію так, што ніхто не хацеў нават ісці глядзець памяткі старадаўняй архітэктуры горада. І праўдападобна гэтая сустрэча з простымі людзьмі застанецца даўжэй у памяці, чым размовы з разумнымі палітыкамі ці прафесарамі тамашніх навуковых установ.

**Скансэн**

Пару кіламетраў за Кіевам, каля вёскі Пірагова, пабудавалі нядаўна незвычайны музей. На 160 гектарах экспазіцыйнай плошчы адлюстравана будаўніцтва ўсіх рэгіёнаў Украіны XVI — XIX стагодзяў. Усе экспанаты арыгінальныя — цэрквы з Падолля, Лэмакаўшчыны, хаты, хлявы, клуні з Валыні, Задняпроўя, паўднёвага Палесся, Палтаўшчыны. Сапраўды, будучы ў скансэне складаецца ўражанне, што чалавек пераносіцца ў свет вядомы толькі з літаратуры. Хаця гаспадары стараліся паказаць нам багацце ўкраінскай зямлі, яе культурную спадчыну, паказвалі штосьць, чаго там увогуле не было. Хаты, хлявы, клуні XIX стагоддзя, якія захаваліся на Беласточчыне, былі ў 2—3 разы большыя, чым на Украіне. Пры канцы 80-х гадоў бачыў я падобны расейскі скансэн ва Уладзіміры (200 кіламетраў за Масквой) і там мяне здзівіла велічыня жыллёвых будынкаў і вельмі малыя памеры гаспадарчых. Проста там, дзе дамінавала прыгоннае права, сялянам хапала невялікай клуні, у якой апрача саломы і сена трымалі адну кароўку і свінню. На Украіне часта каля клуні быў хлеўнік, але толькі трошку большы за сабачую буду. Як паясняла мне супрацоўніца музея, такая свінская кватэра мусіла быць цеснаватая, каб яе кватарантка зашмат не бегала і не траціла свае масы.

**„Дні Кіева”**

28 і 29 мая былі арганізаваныя ўладамі вялікія святкаванні „Дзён Кіева”. Я ўпершыню ад часу ліквідацыі першамайскіх святкаванняў бачыў імпрэзу з такім размахам. У цэнтры горада рух аўтамабіляў быў зусім закрыты. На галоўнай вуліцы Кіева — Хрэшчаціку — сотні тысяч людзей. Што пару метраў нешта дзеялася — тут калектыў мусатых мужчын у народных вопратках спявае старыя казацкія думкі, там гучыць рок-музыка, зараз побач артысты з дзяржаўнага цырка паказваюць неправдападобную гнуткасць свайго цела. Усюды калярова і весела. На вуліцы Андрэеўскі спуск, дзе стаіць дом Міхаіла Булгакава, цяпер музей, немагчыма прайсці. Па двух яе баках прадавалася столькі вырабаў народнай матэрыяльнай творчасці, што можна было напоўніць імі крамы „цэпэліёўскага” тыпа ад Лондана па Маскву. Тут таксама музыка і спевы, але без танцаў, бо не было месца, а каменная вуліца вяла на высокую гару, з якой відаць панараму горада. Дарэчы, старыя Кіеў быў пабудаваны на горках.

**Украінскае тэлебачанне**

У найбольшым скарачэнні можна сказаць, што ўкраінскае тэлебачанне не зашмат адрозніваецца ад беларускага, з тым, што кіеўскія ўраднікі і службоўцы стараюцца гаварыць на роднай мове. На Беларусі — гэта рэдкая з'ява. Праграма перапоўнена трансляцыямі пасяджэнняў Вярхоўнай Рады, заявамі дэпутатаў і ўраднікаў, псеўдагаспадарчымі праблемамі, фальклорнай культурай. Ад беларускага тэлебачання ўкраінскае адрознівае тое, што ўсе замежныя фільмы і праграмы перакладзены на ўкраінскую мову; у Беларусі — выключна на расейскай.

На Украіне ёсць таксама тры праграмы расейскага тэлебачання. Іх узровень непараўнальна вышэйшы за польскую, беларускую ці ўкраінскую праграмы. Тэхнічныя магчымасці і прафесіяналізм журналістаў тэлестанцыі „Астанкіна” — гэта ўжо заходнія стандарты. Нават аматары парнухі пасля гадзіны 23 могуць знайсці для сябе шмат цікавых уражанняў. Сядзіць тады ўкраінскі народ і слухае расейскіх палітыкаў, артыстаў, каментатараў, прапагандыстаў.

**Палякі на Украіне**

Дамоўленая раней сустрэча дэлегацыі нацыянальных меншасцяў з Польшчы з паслом РП у Кіеве не атрымалася. Пан пасол меў нейкую сустрэчу з адным з варшаўскіх войтаў. Прыняў нас консул Тамаш Леанюк, які спачатку не надта ведаў, што з намі зрабіць, але пасля дэталёва расказаў пра сітуацыю палякаў на Украіне. Паводле консула, найбольш іх жыве на Жытаміршчыне. Там шэфамі абласной адміністрацыі і КДБ з'яўляюцца палякі. Праблема польскай меншасці на Украіне — недахоп інтэлігенцыі. Часта настаўнікамі польскай мовы з'яўляюцца людзі цесна звязаныя з працай на рэлігійнай ніве. Ад часу падпісання адпаведных дамоваў паміж Польшчай і Украінай шмат маладых людзей паехалі вучыцца ў Польшчу. Аднак ніхто з іх не збіраецца вяртацца ў свае вёскі ці мястэчкі. Менавіта таму апошнім часам арганізуюцца факультэты польскай мовы ў Кіеве і Львове. Але тут жа з'явілася новая праблема — няма зашмат ахвотных там вучыцца. Палякі маюць два свае часопісы "Dziennik Kijowski" і „Wiadomości Lwowskie". Прысутная на сустрэчы пані Вікторыя Радэк з Саюза палякаў на Украіне выказала думку, што ўкраінская дзяржава нічога не дае палякам. „My musimy chodzić i o wszystko prosić, — гаварыла пані Радэк. — Nie możemy założyć nawet własnej firmy. Tylko Ruch Narodowy Ukrainy nas popiera. Jest to jedyna organizacja, która walczy o rzeczywiste równouprawnienie wszystkich obywateli Ukrainy. Ale wy przecież też macie organizację, która broni waszych interesów, mam na myśli „Solidarność". Тут публіка не стрымала павагі сітуацыі і грымнула смехам. Аднак за мяжой яшчэ існуе міф „Салідарнасці” 1980—1989 гадоў, якая сапраўды змагалася за дэмакратыю ў Польшчы. Але назваць сённяшніх салідарнікаў змагарамі за правы нацыянальных меншасцяў — гэта гучыць як чорны гумар.

**Народны рух Украіны**

— гэта арганізацыя, якую стварылі ліберальная камуністы і якая пачала змены на Украіне, штось накшталт польскай „Салідарнасці” ці Беларускага народнага фронту. Цяпер Рух імкнеццаператварыцца ў палітычную партыю, адкідаючы левыя і правыя крайнасці. Старшыня Руху Вячаслаў Чарнавіл заявіў на сустрэчы з нашай дэлегацыяй, што яго партыя будзе мець хрысціянска-дэмакратычны характар. Паводле слоў Чарнавіла, толькі такі напрамак гарантуе Украіне выхад на еўрапейскі шлях. Дарэчы, гэтае самае ў Менску гаворыць Пазьняк. Але ў цэлай Еўропе хрысціянска-дэмакратычныя партыі маюць штораз меншае значэнне. Чарнавіл, як лідэр апазіцыі, будучыню Украіны бачыць не надта аптымістычна. Пасля перамогі камуністаў у выбарах у Вярхоўную Раду, пачалі яны вяртаць старыя прынцыпы кіравання дзяржавай. У парламенцкай працы пастаянна парушаецца права, мяняюцца прынцыпы ў адпаведнасці да патрэб кіруючай групы. Рух мае толькі 27 дэпутатаў, камуністы — 130. Астатнія 70 дэпутатаў гэта „балота”*), якое галасуе так, як большасць, не маючы акрэсленых ні ідэалагічных, ні праграмных накірункаў. У справе нацыянальных меншасцяў Рух кіруецца лозунгам: „Рускаму павінна лепш жыцца на Украіне, чым у Маскве, яўрэю, чым у Іерусаліме, паляку, чым у Варшаве” і г.д.

Спытаў я спадара Чарнавіла, як бачыць будучыню Украіны, якія гаспадарчыя рэформы пачаў бы, калі б улада была ў руках яго партыі. Старшыня адказаў, што найважнейшае — гэта прыватызацыя зямлі і змена структуры прамысловасці так, каб магла яна забяспечыць патрэбы сялян у машыны і мінеральныя ўгнаенні. Падараваў ён таксама кніжку з праграмай Руху. На жаль, не знайшоў я ў праграме адказу на пытанне, як будзе выглядаць сельская гаспадарка, калі ўжо ўся зямля апынецца ў прыватных руках. Дзе і каму фермеры будуць прадаваць мяса, збожжа, малако? Пакуль што, Украіна, якая магла б накарміць усю Еўропу, купляе асноўныя харчовыя прадукты.

*(заканчэнне ў наступным нумары)*

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

------------------------

**) тэрмін з часоў буржуазнай французскай рэвалюцыі, акрэсленне групы дэпутатаў французскага парламента з 1790 г.*




*ВІКТАР ШВЕД*

**КАТРЫНШЧЫК**

На людным рынку Старога мяста,  
На спарахнелай даўняй катрынцы  
Дзіўны катрыншчык іграе часта  
Напеў лірычны схаваны ў скрынцы.

Круціць рытмічна ручкай старэча  
Сваю катрынку, што на трыножку,  
Думае нейкую думу аб нечым...  
Побач рамізнік дрэмле на дрожках.

Людзі спыняюцца на хвілінку,  
Гукі мелодыі ловяць з раскошай  
І з пачуццём аглядаюць катрынку,  
У капялюш кладуць часам грошы.

Кожны прахожы сумуе трошкі,  
Бачыць мінулага веку агонію,  
Рэліктаў яго: катрынка і дрожкі,  
Катрыншчык, рамізнік і верны конік.

# ВНУ БЕЛАРУСІ ЧАКАЮЦЬ!

**Шаноўны спадар Рэдактар,**

**Дасылаем тлумачэнне Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь аб парадку прыёму ў ВНУ Беларусі між інш., беларусаў, якія пражываюць за яе межамі.**

**Маем надзею, што „Ніва” выкарыстае гэты матэрыял у сваёй працы дзеля дапамогі маладым беларусам Польшчы ў акрэсленні жыццёвага шляху.**

**З павагай,**

**Часовы Паверанш ў справах Беларусі ў Польшчы  
М. ПЕТРУШКЕВІЧ**

* * *

Згодна з Тыповымі правіламі прыёму ў ВНУ Рэспублікі Беларусь на 1994 год „асобы, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, а таксама грамадзяне Беларусі і беларусы, якія пражываюць за яе межамі, маюць права на конкурснай аснове атрымаць бясплатную вышэйшую адукацыю ў дзяржаўных вышэйшых навучальных установах рэспублікі, калі яна атрымліваецца ўпершыню”.

Паступаючыя павінны падаць ці даслаць дакументы ў адпаведную ВНУ (заяву на імя рэктара, дакумент аб сярэдняй адукацыі ў арыгінале, 6 фотакартак памерам 3 х 4, медыцынскую даведку па форме 086У, а таксама дакументы, якія пацвярджаюць прыналежнасць да беларускай нацыянальнасці або грамадзянства Беларусі). Кожная ВНУ распрацоўвае свае ўласныя правілы прыёму, якімі прадугледжваецца парадак, тэрміны правядзення ўступных экзаменаў і іншыя пытанні адносна паступлення ў ВНУ. Гэтыя правілы не пярэчаць Тыповым правілам.

Экзамен па беларускай мове і літаратуры з'яўляецца абавязковым для асоб, якія маюць адзнакі ў дакуменце аб сярэдняй адукацыі па гэтых прадметах, г.зн., што абітурыенты, якія не вывучалі беларускую мову і літаратуру, будуць здаваць уступны экзамен па рускай мове і літаратуры.

Разам з тым варта адзначыць, што ва ўсіх ВНУ рэспублікі абавязковай дысцыплінай з'яўляецца беларуская мова, а таксама тое, што ў новым навучальным годзе ўсе педагагічныя ВНУ ў абавязковым парадку пераходзяць да навучання на беларускай мове, некаторыя ВНУ таксама будуць пачынаць навучанне на беларускай мове.

Прадстаўнікі беларускай дыяспары, якія паспяхова здалі ўступныя экзамены і прайшлі па конкурсе, будуць залічваца на вучобу **на агульных з жыхарамі Беларусі падставах: атрымліваць дзяржаўную стыпендыю, месца ў інтэрнаце, бясплатна карыстацца вучэбна-матэрыяльнай базай ВНУ.** Асобы, якія станоўча здалі ўступныя экзамены, але не прайшлі па конкурсе, могуць быць залічаны звыш кантрольных лічбаў прыёму пры ўмове аплаты за навучанне, прычым гэтае пытанне, ў кожным канкрэтным выпадку, разглядае прыёмная камісія ВНУ, памер аплаты за навучанне вызначае кожная ВНУ самастойна.

Такім чынам, беларусам замежжа прадстаўляецца магчымасць і льгота свабоднага конкурснага паступлення ў любую ВНУ рэспублікі і вучобы за дзяржаўны кошт.

Па ўсіх пытаннях паступлення ў ВНУ рэспублікі, узнікаючых пры гэтых праблемах, прадстаўнікі беларускіх суполак могуць звяртацца ў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (220010, г. Мінск, вул. Савецкая, 9) ці непасрэдна да супрацоўнікаў міністэрства Парфянцовай Ларысы Аляксееўны (тэл. 20-62-72) і Пяцігора Генадзія Міхайлавіча (тэл. 20-30-66).



 

# НОВЫ ЭТАП ГАЙНАЎСКАГА БЕЛЛІЦЭЯ

*Працяг са стар. 1*

Ці няма ўжо для нас ніякай надзеі? Я не хацеў бы закончыць на такой мінорнай ноце. Пэўныя надзеі, аптымізм, канешне, ёсць, і я ў іх часткова веру. Веры ніяк траціць нельга. Па-першае, абсалютна па розных прычынах можа стацца так, што мы, беларусы, нарэшце паразумнеем крышку і пачнем цаніць і гарнуцца да свайго роднага. Такое бывае. Па-другое, ёсць пэўная надзея і на тую лепшую частку нашай моладзі, бо ёсць, на шчасце, і такая. Яны глыбока і балюча адчуваюць нашу нацыянальную сітуацыю, дакладна вывучаюць нашу мінуўшчыну, задумваюцца над нашым лёсам. Да таго ж, вельмі любяць і цэняць сваё роднае, адчуваюць адказнасць за яго. Такіх маладых людзей паяўляецца штораз больш. Нямала такіх і ў нашым ліцэі.

Адной з цікавейшых, на мую думку, тэм, якія пісьмова разглядалі на маіх уроках вучні чацвёртых класаў у мінулым школьным годзе, была: **Якое месца на карце нашай Айчыны, Польшчы, табе найбольш мілае і дарагое? Чаму?**

Вельмі прыемна, што для абсалютнай большасці нашых абітурыентаў, а цяпер ужо выпускнікоў (дай ім Божа здароўе і дапамажы адшукаць годнае месца ў жыцці) такім наймілейшым і найдаражэйшым месам з'яўляюцца не горы, не моры, не сталіцы (хаця і такія працы здараліся), і напэўна не рэвалюцыйныя ці салідарніцкія „калыскі", а іх роднае сяло ці гарадок з найбліжэйшымі ваколіцамі, Беласточчына, Падляшша. Адным словам, іх маленькія айчыны.

І мне міла, і іх бацькам павінна быць міла, і солтысу ці войту, і ўсім іншым мясцовым уладам і арганізацыям за лакальны патрыятызм сваіх маладых грамадзян. Думаю, не павінна пакрыўдзіцца на іх за гэта і нашая вялікая айчына, бо вялікая айчына з'яўляецца не чымсьці іншым, як сумай усіх маленькіх айчын. Інакш кажучы, хто так моцна любіць сваю маленькую айчыну, не можа не любіць вялікай.

Варта таксама звярнуць увагу ў працах на тое, якое важнае месца ў нашай моладзі займае не толькі сям'я, мясцовая грамадскасць, наша мова, традыцыі, але і наша праваслаўная рэлігія, царква. Вось і прыходзіць у маю галаву ерэтычная думка: як бы мы хутка маглі адбудаваць нашу нацыянальную свядомасць, калі б заняліся гэтым і дом, і школа, і царква.

Чаму і чым жа так мілыя і дарагія нашым сёлетнім выпускнікам іх маленькія айчыны, няхай адкажуць самі. З вядомых прычын прыводжу толькі фрагменты прац.

**ВАСІЛЬ САКОЎСКІ**

* * *

Нарадзілася я на Беласточчыне і вось гэтая частка нашай краіны мне самая дарагая, таму я і напішу пра яе. Але самай блізкай мясцінай гэтага кутка Польшчы з'яўляецца мая вёска — Дубічы-Асочныя, у якой я жыву і гадуюся ўжо 18 гадоў. Гэта вёска невялікая, там усяго 80 хат, але якая яна прыгожая!

Самая непаўторная пара года, у якой Дубічы найпрыгажэйшыя, гэта вясна. Я так люблю тады выйсці на загуменне і аглядаць прасторы маёй маленькай айчыны. Перада мной роўненька распаложаны палі і лугі. Далей у краявідзе відаць лясы Белавежскай пушчы, бліжэй — адзінокія, сумныя дрэвы і кусты.

Калі мне чагосьці маркотна або наадварот, я вельмі вясёлая, люблю падысці некалькі крокаў за нашую клуню, дзе расце велізарны, магутны дуб, якому блізка дзвесце гадоў. Гэты дуб, летам і зімой, заўсёды такі прыгожы, ён увесь час так прыемна шуміць, таму я вельмі люблю глядзець на яго, часам і пасядзець, абапёршыся аб яго моцны пень.

У нашай вёсцы ўсе людзі праваслаўныя, і з гэтай рэлігіяй звязаны нашы традыцыі і звычаі. Акрамя такіх вялікіх свят, як Вялікдзень ці Раждажство Хрыстова, святкуюць яшчэ і такія святы, як Новы год ці провады, з якімі вяжуцца розныя звычаі. У ноч з 13 на 14 студзеня (на гагатуху) моладзь здымае брамачкі ў гаспадароў і дзесьці іх адносіць далей. У гэтую ноч варожыцца, а таксама высыпаюцца попелам сцежкі ад хаты хлопца да дзяўчыны, якія кахаюць адно аднаго. На провады, напрыклад, захаваўся звычай, каб абліваццa вадой. Калі я была яшчэ малодшай, дык збіраліся дзеці з усёй вёскі і абліваліся да самага вечара. Да дому прыходзілі зусім мокрыя — аж мама крычала.

Людзі ў Дубічах ветлівыя і добрыя, вельмі рэдка бывае, што хтосьці пасварыцца, але калі ўжо здарыцца, хутка забываюць пра сварку, зноў жывуць у згодзе.

Моладзі ў нашай вёсцы не надта многа, хіба таму ўсе мы дружныя і ўмеем арганізавацца, калі трэба штосьці зрабіць. Разам ходзім калядаваць і разам арганізуем дыскатэкі ў канікулы.

Усё гэта складаецца на тое, што я так кахаю Беласточчыну і нідзе больш не хацела б жыць, толькі тут. Калі я кудысьці паеду і хаця там было мне вельмі добра, то як цудоўна зноў вярнуцца дадому, пачуць уласную мову, на якой гавораць усе навокал, пабачыць людзей, якіх ведаю і шаную. Чым бліжэй сваёй хаты, тым больш я хвалююся і цешуся.

Вось гэта ўсё такое радаснае і мілае, якога немагчыма ўзяць у рукі, але яго нельга забыць, яно ўрасло глыбока ў сэрца — гэтых пачуццяў ужо не выкараніш. Праўду гавораць словы песні: „Люблю наш край, старонку гэту...", таму і мне гэтая старонка такая дарагая.

*(працяг будзе)*

# СУПОЛЬНАЯ СПРАВА ДЗЯЦЕЙ І ПАЖАРНІКАЎ

Агульнапольскі турнір пажарных ведаў „Młodzież zapobiega pożarom" адбываецца кожны год. Сёлетнія ваяводскія элімінацыі адбыліся 31 мая ў Красным каля Заблудава. Частка ўдзельнікаў сабралася ў Ваяводскай пажарнай стражы ў Беластоку, адкуль паехалі на месца спаборніцтваў. Па дарозе была аварыя аўтобуса і з той прычыны прыехалі яны на паўгадзіны пазней. Архітэктурны комплекс Дзіцячага дома імя Януша Корчака ў Красным — гэта прыгожа распалажаны сярод лясоў аб'ект. У ім чатыры жылыя дамы, гаспадарчы будынак, басейн і некалькі гаражоў. Дзетдомаўцы маюць таксама свае цяпліцы, агарод і сад.

Удзельнікаў пластычнага конкурсу і турніру прывітала дырэктар Дзіцячага дома Анна Зяневіч. Паінфармавала яна, што гэты дом існуе з 1956 года і цяпер прабывае ў ім 65 дзяцей. Ад імя арганізатараў удзельнікаў прывітаў старшыня Пажарнай стражы ў Заблудаве. Пазнаёміў ён нас з журы, якому старшыняваў Уладзімір Лапінскі, а таксама са спонсарамі (больш чым дзесяць устаноў і прыватных асоб).

Да пісьмовых элімінацый прыступілі 7 вучняў старэйшай групы і 17 — малодшай. Састаў пытанняў быў даволі цяжкі. Камісія вылучыла па 5 найлепшых асоб з малодшай і старэйшай груп.

У другім этапе можна было максімальна набраць 9 ачкоў (3 пытанні). А вось канчатковыя вынікі турніру:

**Малодшая група:**

1. Іаанна Бубноўская — Монькі (8 ачкоў),
2. Данель Арбачэўскі — Мельнік (7),
3. Эмілія Дзмітрук — Дубічы-Царкоўныя (6),
4. Марцін Бядрыцкі — Чыжы (3),
5. Міхал Цітка — Дуброва-Беластоцкая (1).

**Старэйшая група:**

1. Баляслаў Грынявіцкі — Бельск-Падляшскі (9 ачкоў),
2. Іаланта Дзмітрук — Сахоні (6),
3. Тамаш Цабан — Крыпна (6),
4. Адам Васілеўскі — Бельск-Падляшскі (5),
5. Анэта Юзвовіч — Чаромха (3).

Перад раздачай узнагарод выступіў калектыў Дзіцячага дома з даволі цікавай праграмай. Узнагароды былі такія самыя ў абедзвюх групах: за 1 месца — тэлевізійная ігра, 2 — радыёпрыёмнік з гадзіннікам, 3 — энцыклапедыя Гінеса, 4 — ранец, 5 — кніжка „Лялька" Б. Пруса. Тыя, хто заняў першыя месцы будуць прадстаўляць Беластоцкае ваяводства на агульнапольскіх спаборніцтвах у Пятркове-Трыбунальскім. Астатнія ўдзельнікі турніру атрымалі яшчэ дыпломы і іншыя ўзнагароды. У далейшым раздаваліся ўзнагароды ўдзельнікам пластычнага конкурсу.

Пасля абеду адбыўся паказ пажарнай тэхнікі і тушэння агню.

Удзельнікі турніру раз'ехаліся дахаты позна, пасля поўдня. Гэтае мерапрыемства было ўдалае і карыснае. Добра было б, каб падобныя спаборніцтвы адбыліся і ў наступным годзе.

**СЛАВАМІР КУЛІК**

# ГАЛЕРЭЯ ПАД БУСЛАМ

Хто Тамара Тарасевіч нашым чытачам, думаю, шмат растлумачваць не трэба. Пра яе „Ніва" пісала неаднойчы. І, вось, ізноў здараецца нагода напісаць пра таленавітую белавежскую мастачку.

Т. Тарасевіч здаўна марыла, каб мець сваю галерэю, у якой магла б паказаць сваю творчасць шырэйшаму кругу людзей. Супольна з мужам, увесь час шукала дзеля гэтага адпаведны будынак у Белавежы. І, наканец, такі будынак знайшоўся, на вул. Паркавай, н-р 5. Пастаўлены ён быў яшчэ ў дваццатыя гады. У ім некалькі гадоў функцыянавала пачатковая школа (пры нагодзе, у гэтай школе вучыўся былы галоўны рэдактар „Нівы" Г. Валкавыцкі). У час савецкай улады тут размяшчаўся сельсавет. Сам будынак, нягледзячы на свой „узрост", трымаецца яшчэ даволі добра. У ім ёсць мансарда, на даху якой знаходзіцца буслінае гняздо. Сёлета буслы дачакаліся патомства. Навокал будынка абшырны пляц, на якім расце фруктовы сад, а таксама некалькі старых дубоў. Ад усходу пляц мяжуе з маленькай рэчкай. На захадзе, праз вуліцу, сцяна Палацовага парка. Адным словам — месца, аб якім можна толькі марыць.

Памяшканні будынка — пяць пакояў, сенцы і веранда — спярша трэба было аднавіць. Сяргей і Тамара Тарасевічы справіліся з гэтым у два-тры тыдні. Яны дадаткова зрабілі яшчэ цэментавы тратуар ля ўвахода, ачысцілі пляц ад вуліцы з дзікарослых кустоў. У найбліжэйшы час хочуць зрабіць новую агароджу.

У залах і сенцах будынка ўдалося развесіць каля 100 палотнаў, пераважна вялікіх памерамі. Мастачка прытрымлівалася прынцыпу: адзін пакой — адзін від мастацтва, але аказваецца, што дыяпазон яе таленту патрабаваў бы дзеля гэтага яшчэ некалькі пакояў. Таму ў двух пакоях тэмы „заходзяць на сябе".

Адзін пакой цалкам прысвечаны... этнаграфіі. Гэта задума мужа сп. Тамары. Ён у адносна кароткім часе сабраў шмат старых прыладаў, якія ўжываліся даўней у сялянскай гаспадарцы, таксама жаночы ўбор і ткацкія вырабы. Частку прадметаў купіў ён у жыхароў Белавежы, частку яны яму ахвяравалі (асабліва шмат вартасных рэчаў аддаў Уладзімір Дацкевіч з Крыжоў). Некаторыя экспанаты паходзяць нават з першай паловы XIX ст. Невялікая кухня, здаецца, аж лопае ад рэчаў, а вочы наведвальніка проста разбягаюцца. Частку этнаграфічнага збору сп. Сяргей змясціў таксама ў сенцах, ля ўвахода ў галерэю.

— Але, на гэтым яшчэ не канец, — гавораць Тарасевічы, — хочам таксама паказаць у сябе карэнямастацтва Станіслава Банаха і разьбу па дрэве Мар'і Смактуновіч, нашых белавежскіх сяброў. Свае „лясныя дзівы" першапачаткова хацеў паказаць у нас таксама Мікалай Вашкевіч, але потым чамусьці адмовіўся. Што ж, яго справа!

Я ўпэўнены, што калі гэты артыкул (пішу яго 13 чэрвеня г.г.) паявіцца ў друку, галерэя будзе ўжо цалкам укамплектаваная, згодна з планамі яе ўласнікаў. Мне яшчэ цiснецца ў галаву вось такая думка: як сапраўды назваць (акрэсліць) гэтую культурную ўстанову: яна ж заадно і галерэя, і музей. А сп. Тамара гаварыла мне яшчэ, што ў будучыні хоча наладжваць тут сустрэчы з пісьменнікамі, паэтамі, (— Першым у нас, — гаворыць мастачка, — абавязкова будзе Барыс Руско.), дэкламатарскія вечарыны ў выкананні вучняў мясцовага Лясного тэхнікума. Думае, што таксама не абыдзецца без звычайных сяброўскіх сустрэч пры каве, размоў аб мастацтве, культуры.

У цэлым гэтым кантэксце мусіць здзіўляць факт, што Гмінная ўправа палічыла дзейнасць галерэі Тарасевічаў гаспадарчай (яны ж будуць зарабляць грошы!) і абкладжыла іх адпаведна высокім падаткам. Цяпер лёс галерэі будзе залежыць ад таго, ці праз яе штомесяц пройдзе столькі наведвальнікаў, каб яна наогул магла зарабіць на сябе, аб даходзе ўжо не гаворачы!

А калі ўжо аб фінансах гутарка, то трэба паінфармаваць, што білет у галерэю-музей каштуе: для дарослых — 10 тысяч злотых, для моладзі і пенсіянераў — 5 тыс. зл. Установа адчынена ў гадзінах 10—13 і 15—17, але ёсць магчымасць наведаць яе і ў іншыя гадзіны, дзеля чаго трэба пазваніць на нумар 766.

Вось, гэтак ні села, ні пала, Белавежы прыбыла новая культурная ўстанова. Яна мае шанц стаць таксама важным турыстычным аб'ектам. Нас асабліва павінна цешыць, што дух яе выразна беларускі.

**ПЁТР БАЙКО**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Мама, сёння ў школе я перашкодзіў над настаўнікам згуляць злы жарт!
— Вельмі добра, і што ты зрабіў?
— Калі Жан паклаў настаўніку на крэсла кнопку, і я ўбачыў, што той садзіцца, я выхапіў з-пад яго крэсла.

* * *

— Я магу выканаць любое тваё жаданне. Кім бы ты хацеў стаць? — пытаецца Дзед Мароз малога.
— Я хачу быць прадаўцом.
— Але ж ты яшчэ малы!
— Так, але я мог бы таргаваць з-пад прылаўка.

* * *

У дзіцячым садку, пасля прагляду чарговай серыі „Багатыя таксама плачуць".
Танечка:
— Я вырасту вялікая-вялікая і буду як цёця Эстэр. Няхай памру, але нараджу дзіця.
Светачка:
— А я буду як цёця Марыяна. Буду нараджаць і дарыць, нараджаць і дарыць...

* * *

Хлопчык не можа адкрыць кансервную банку і звяртаецца да міліцыянера за дапамогай. Той грозна стукае па банцы:
— Адчыніце, міліцыя!

* * *

— Дзе носяць сваіх маленькіх дзяцей кенгуру? — пытаецца дзяўчынка ў свайго брата.
— У кішэнях штаноў!

* * *

— Мама, а праўда, што ўсе людзі пайшлі ад малпы?
— Праўда.
— І я?
— І ты.
— І ты?
— І я.
— А ў цябе фатаграфіі не засталося?

* * *

— Мама, я сёння буду спаць у шкарпэтках, — рашуча кажа Сяргей.
— Гэта чаму ж? — здзіўляецца маці.
— Ды так, мне надакучыла іх раніцай шукаць!

* * *

— Тата, ты ад чаго расцеш?
— Я ўжо вырас і больш не расту.
— Навошта тады ты ясі?

**ВАЛЕРЫ БАБЕЙ**



*Вучні з Сакоў.* **Фота Г. Кандрацюк**

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

## 3

### БЛАКІТНЫЯ ВОЧЫ І АДЗНАКІ РОЗУМУ

Першы дзень, калі шчанюк застаўся ў хаце, мы не маглі нацешыцца з свайго раптоўнага прыдабытку. Церабілі вушкі, гладзілі, падымалі на рукі, падносячы да акна.

Шчанюк ведаў, што значыць „цю-цю-цю", і спяшаўся на покліч. Гэта было смешна, ён усё яшчэ не мог добра астаяцца на падлозе, відаць, нарадзіўся на панадворку, у засланай саломай будцы або ў сенцах, на гліняным, прыкрытым рызманамі таку.

Напіўшыся цёплага малака, малы аблізаўся і падняў мызачку ўгару.

— Ды ў яго ж блакітныя вочы! — здзіўлена выгукнула Гаспадыня. — І, здаецца, зусім без зрэнак. А ў сабак хіба бываюць блакітныя?

На гэта толкам ніхто не мог адказаць. Успомнілі і перабралі вядомых нам дваровых сабак: якія ў іх вочы? Найчасцей здаралася сустракаць карыя з рудзінкай або зеленавацінкай. А блакітных як быццам не трапляліся. Давялося пагадзіцца, што такі колер маюць вочы выключна ў шчанюкоў, а з часам робяцца інакшыя.

Падсцілкі ў кутку за шафай навасёл не залюбіў і за пасцелю не прызнаў. Трошкі паляжаў і споўз, наколькі дазвалялі неслухмяныя лапы, пачаў гарнуцца да людзей. Відаць, помніў, як было цёпла пры баку ў маці, і шукаў яе: тыкаўся носам кожнаму ў ногі і не сказаць каб вішчаў, а папіскваў.

Яшчэ горш стала, калі скончыўся даўгаваты дзень і ўсе сталі збірацца на сон. Шчанюк ніяк не хацеў заставацца на самоце, хоць яму не пашкадавалі паслаць стары курцік з пушыстым каўнярком, ён тэпаў да ложкаў і ўсё гэтак жа падаваў слабы голас. Пасля, як мог, хапаўся за бераг коўдры і на ўсю сысуноўскую сілу цягнуў яе ўніз, на сябе. Малога лашчылі, заносілі на месца, але ён ляжаў спакойна, толькі пакуль сядзеў пры ім чалавек. Варта было адысціся, як усё паўтаралася спачатку. Не спала ўся кватэра. Нарэшце Гаспадыня не вытрымала, ужалілася і ўзяла шчанюка да сябе. Сабачка патаптаўся ў нагах, дзе было раўней, не ўпадабаў — халаднавата! — і пакрысе падабраўся пад саменькі твар. Тут, каля цёплай шыі, скруціўся ў абаранак, разявіў пысу, падціснуўшы ружовыя язычок, пазяхнуў і адразу заплюшчыў вочы. Праз сон павіскваў, уздрыгваючы ўсім цельцам, і спаў нядоўга.

Насценны гадзіннік пачаў адбіваць поўнач. Шчанюк сеў і ўважліва слухаў, нібы спакмячаў: а гэта што яшчэ за ліха? Сярод безлічы гукаў і мноства ўражанняў на новым месцы бой гадзінніка не ўступбаваў яго ўдзень. Цяпер гэта было залішне гучна і задоўга на чуткія шчанюкоўскія вушы. Калі бой скончыўся, сабачку расхацелася спаць, ён заскуголіў і пачаў шукаць спосабу дастацца на падлогу: звешваў з канапы галаву, аж пакуль не страціў раўнавагі і не кульнуўся на падаконнік.

— Э, братачка, — сказала, падняўшыся, Гаспадыня, — ты, здаецца, маеш розум. — І вынесла малога на двор.

*(працяг у наступным нумары)*

*(працяг у наступным нумары)*

**МАКСІМ ЛУЖАНІН**

*АЛА КАНАПЕЛЬКА*

### КАМАР

Я камар — званар магутны,
па-за хмар мой голас чутны.

Слава ходзіць у народзе:
самы дужы на балоце
я, камар — найстрашны звер.
Як не верыш,
то правер!

### У БАБРА НЯМА ДАБРА

У бабра няма дабра —
зубы ныюць у бабра.

У такія халады —
ад сцюдзёнае вады.

Ён да доктара не йдзе,
а пакутуе штодзень.

Пачало б хутчэй цяплець,
сілы ўжо няма цярпець!

Сонца, грэй і прывячай
луг бабровы і ручай.

І вясноваю парой
будзе наш бабёр герой!

### ПРА ПЕЎНЯ

Сёння певень дужа рады:
ён завёў курэй у грады.

Клікаў, вабіў агарод,
спакушаў курэй праз плот.

Куркі ведаюць, што можна
грэбці лапкай асцярожна

бульбу, моркву, кроп, цыбулю,
агародніну любую,

надзябуцца ў памідорах,
паваляцца па разорах.

І далі заданне пеўню
ў грады іх завесці пэўна.

Ах, курыны род-народ
гвалтам хоча ў агарод!

Кукарэка ведаў справу,
з ёю справіўся на славу.

Пазірае горда ён,
як ні ёсць — Напалеон!

*ВІКТАР ШВЕД*

### РАЗУМНЫЯ ДЗЕЦІ

Усё мяняецца на свеце,
Жыве у скорасным прагрэсе.
Мяняюцца таксама дзеці,
Жывуць у роскашы ці стрэсе.

Імкнуцца розумам у высі,
Гэта ім блізкае, што ў модзе.
Не запытаюць скуль ўзяліся,
Часам гавораць дзе выходзяць.

### ХІМІЧНАЯ ЧЫСТКА

У школе санітарка
Азвалася на сходзе:
— Сыночак ваш, Макарка,
З бруднаю шыяй ходзіць.

Яму дэнатуратам
Я сёння змыла шыю.
— Сынка я нават святам
Хімічна шчэ не мыю.

### ЖЫВЫ ГАДЗІННІК

Санлівы надта наш сыночак
Любіць заўсёды доўга спаць.
Будзільнік голасна грукоча,
Не можа соннага падняць.

Ад наймалодшых гадоў Якаў
Заўсёды любіць спаць з катом.
Пускаем у пакой сабаку —
Ён падымае цэлы дом.

# ЦІ ЗАКВІТАЕ КВЕТКА Ў ПАПАРАЦІ?

## (легенда і сапраўднасць)

Зімой самым вялікім святам у народзе лічацца Каляды, летам — Купалле.

Святкуюць Купалле яшчэ з часоў язычніцтва. Праўда, тады яго адзначалі ў перыяд летняга сонцастаяння, калі быў самы доўгі дзень, і прырода (жыватворныя сілы зямлі, расліны, збажына) дасягала найвышэйшага росквіту. Здавалася, і сонца найгарачэйшае, і вада пад яго ўздзеяннем становіцца самай цёплай і чыстай. Таму і святкаванне перш за ўсё пачыналася з купання. Гэта і дало назву святу — Купалле, Купала.

Калі на Русі і ў іншых месцах прынялі хрысціянства, царква прымеркавала свята Купалле да 7 ліпеня — дня нараджэння Іаана Прадцечы (Ивана Крестителя Христа). Назва яго набыла нават двайное імя — Івана (Яна) Купалы. Святкаваць пачалі ў ноч з 6 на 7 ліпеня. Удзень дзяўчаты збіралі розныя святаянскія зёлкі, сушылі і захоўвалі як моцныя цудадзейныя лекі. Плялі вянкі і з дапамогай іх варажылі на вадзе. Ноччу збіраліся ля кастра, вадзілі карагоды, танцавалі, скакалі праз агонь.

З цягам часу фантазія людзей нарадзіла легенду, згодна з якой апоўначы з 6 на 7 ліпеня ў гушчары лесу заквітае кветка папараці, якая можа даць чалавеку празорлівасць і неабмежаваную сілу, вечную маладосць, здольнасць разумець мову раслін і жывёл. Гэта легенда нарадзілася вельмі даўно, калі людзі думалі, што ўсялякая расліна павінна ўтвараць кветку, а ад яе насенне, каб прадоўжыць свой род на зямлі.

Папараці — шматгадовыя травяністыя расліны. Растуць пераважна ў вільготных цяністых месцах, пад полагам лесу.

Калі летам прыўзняць ліст папараці, на ніжнім баку можна ўбачыць невялікія бугаркі; у іх знаходзяцца кучкі дробных мяшочкаў, у якіх выспяваюць споры. Разгледзець мяшочкі са спорамі можна толькі пад мікраскопам. Спелыя споры выпадаюць, разносяцца ветрам і, трапіўшы ў спрыяльныя ўмовы, прарастаюць. З іх развіваецца лістападобная зялёная пласцінка — зарастак. На ніжнім баку зарастка ўтвараюцца мужчынскія гаметы-сперматазоіды і жаночыя гаметы-яйцаклеткі. Пад зарасткам затрымліваюцца кропелькі расы або дажджу, па якіх сперматазоіды падплываюць да яйцаклетак. Адбываецца апладненне. Развіваецца зародак, які паступова ўтварае карань і кароткае сцябло з першым лістом. З цягам часу і вырастае расліна, якую мы называем папараццю. Так што на самай справе папараць ніколі не заквітае.

Зараз народнае свята Івана (Яна) Купалы ў нас перажывае сваё адраджэнне.

**А. МАКАРЭВІЧ**

*Жыхары нашых лясоў*

# УСУРЫЙСКІ ЯНОТАПАДОБНЫ САБАКА

Усурыйскі янотападобны сабака — насялец Беларусі. Радзіма яго — Усурыйскі край. Звер гэты невялікі, на каротких нагах, нагадвае звычайнага сабаку. Футра буравата-шэрае, з жаўтаватым адценнем, густое і даволі доўгае, галава невялікая, з кароткай завостранай мордай, з бакамі. Ад вачэй да вушэй цягнуцца шырокія і расплывучатыя белыя палосы, што робіць сабаку падобным на янота-паласкуна, яго часта памылкова называюць усурыйскім янотам.

У 1936 годзе ў Беларусь завезлі 100 янотападобных сабак і выпусцілі ў лясы Менскай і Гомельскай абласцей. Пазней былі завезены яшчэ 259 звяркоў у Брэсцкую, Гродзенскую, Менскую і Віцебскую вобласці.

Звер корміцца каранямі, сакавітымі сцяблами раслін, насякомымі, малюскамі, яшчаркамі, мышамі, змеямі, рыбамі, палёўкамі, птушкамі і іх яйкамі. Селіцца пераважна па берагах азёр, у далінах рэк. Аддае перавагу паўвандроўнаму спосабу жыцця, хутка рассяляецца.

Даўжыня цела 65—70 сантыметраў, хваста — 15—25 сантыметраў, маса — да 10 кілаграмаў. Шлюбны перыяд у яго ў студзені—лютым. У канцы красавіка— маі з'яўляецца 5—7, зрэдку 14—19 дзіцянят.

У перыяд размнажэння нару рые рэдка, часцей будуе сховішчы пад каранямі дрэў, у старых зямлянках, траншэях. З надыходам халадоў тлусцее і ўпадае ў больш ці менш працяглы сон. Часта прачынаецца ў час адліг, выходзіць са свайго зімовага сховішча ў пошуках корму, але потым пры пахаладанні зноў хаваецца.

Пашкоджвае кладкі і вывадкі баравой і вадаплаўнай дзічыны. Промысел звярка пачаўся ў 1945 годзе. Штогод нарыхтоўваюць 4—6 тысяч шкурак.

**А. КУРСКОЎ**



*Ада Семянюк слухае ў Кнышынскай пушчы, як працуе дзяцел.*
**Фота А. Ч.**

# ЛАГАГРЫФ



1. дае малако,
2. дзіця, якое не мае бацькоў,
3. працуе ў лесе,
4. важная частка нагі,
5. мэбля для сядзення,
6. куе жалеза.

Вылучаныя літары складуць назву каляднай стравы з аўса.

*З гісторыі Беларусі*

# ДРАГІЧЫН

Назву гэтага райцэнтра Брэсцкай вобласці традыцыйна тлумачаць пры дапамозе этнічнага імя „дрыгавічы". Даследчыкаў спакушае пэўная сугучнасць двух найменняў — этнічная і геаграфічная. Але ж сугучнасць гэтая перш-наперш няпоўная, а па-другое, цалкам выпадковая.

Структурна-словаўтваральныя асаблівасці назвы Драгічын (наяўнасць відавочнага суфікса -ын) паказваюць, што этнонім у яе аснове не ляжыць. Аўтар гэтых радкоў спецыяльна займаўся вывучэннем геаграфічных назваў, утвораных ад этнічных імёнаў. Дык вось сярод гэтых так званых этнатапонімаў няма ніводнага наймення з суфіксам -ін ці -ын.

Калі мы сустракаем назву, напрыклад, Мазурына (вёскі Браслаўскага, Міёрскага, Шуміліскага раёнаў) ці Латышына (фальварак былога Полацкага павета), то яны хутчэй за ўсё азначаюць, што адпаведныя населеныя пункты заснаваў нейкі чалавек па мянушцы (прозвішчы) Мазур, Латыш ці што гэтыя пасяленні належалі Мазуру, Латышу.

Суфікс -ін, -ын, той жа, што і ў назве Драгічын, часцей за ўсё якраз і ўказваў на прыналежнасць. Ёсць і выключэнні. Напрыклад, суфікс -ін, -ын у геаграфічных найменнях Столін, Брагін, Кобрын меў іншае значэнне, у прыватнасці тапаграфічнае. Але гэта менавіта выключэнні.

У найменні Драгічын „закансервавана" верагоднае асабовае імя ці хутчэй мянушка Драгіта, Драгута. У сваю чаргу карані гэтай мянушкі ў двухасноўнага славянскага імя Драгамысл, Драгаслаў, Драгавіт ці Драгабуд з першай часткай Драг-, Дрог- у значэнні „дарагі, любы". У паўсядзённым ужыванні такія даволі грувасткія імёны скарачаліся, усякаліся, галоўным чынам, за кошт другой часткі. У выніку ўтвараліся ўсечаныя памяншальна-ласкальныя ці павелічальныя мадэлі імёнаў — мянушкі, якія ў далейшым маглі пераходзіць у прозвішчы. Напрыклад, у сучаснай балгарскай мове ўжываюцца двухасноўныя імёны Драгамір, Драгаслаў, Драгалюб, але ўжываюцца і скарочаныя варыянты гэтых імёнаў — Драган, Драго, Дражко. Сярод беларускіх прозвішчаў сустракаюцца такія — Драгун, Драгуль, Драган. Думаецца, што гэтыя прозвішчы маюць такое ж паходжанне, як і нагаданыя балгарскія скарочаныя формы Драган, Драго, Дражко.

Але вернемся да геаграфічнай назвы Драгічын. Існуюць пэўныя падставы меркаваць, што гэтая назва ўзнікла ў заходнеславянскім моўным асяроддзі, паколькі ў ёй адлюстравана нехарактэрнае для ўсходнеславянскіх моў няпоўнагалоссе, гэта значыць Драг- ці Дрог — замест Дараг-, Дорог-, Дарагічын. Акрамя таго, назва райцэнтра Брэсцкай вобласці з'яўляецца верагодным „перанесеным" тапонімам. Яе прынеслі з сабой перасяленцы, якія рухаліся з захаду — з тэрыторыі сучаснай Польшчы.

Там, на землях Падляшша, існуе яшчэ адзін, як можна меркаваць, першасны тапонім Драгічын (горад у складзе Беластоцкага ваяводства). Менавіта назва падляшскага Драгічына і ўтварылася ад верагоднай мянушкі Драгіта, Драгута. А потым у гатовым выглядзе, у форме Драгічын, „перавандравала" на ўсход, за раку Мухавец, дзе і ўзнікла яшчэ адно паселішча з падобнай назвай.

Двухасноўныя імёны з першай часткі Драг- не былі характэрнымі для ўсходнеславянскай тэрыторыі. Імя „Даргабонд" („Дрогобуд") вядома сярод палабскіх, паморскіх славян. Ці не ўцекачы з міжрэчча Лабы і Одры, якія ратаваліся ад германскіх захопнікаў, заснавалі падляшскі Драгічын, а магчыма, і беларускі (сучасны райцэнтр Брэстчыны)? Падляшскі Драгічын згадваецца ўпершыню ў 1177 годзе, а беларускі — у 1452 годзе (згадванне і час заснавання паселішчаў, як правіла, не супадаюць).

Увогуле падляшскі Драгічын размешчаны на тэрыторыі, дзе адчуваецца значны ўсходнеславянскі (беларускі) моўны ўплыў. Невыпадкова ў 1510 і 1567 гадах назва горада зафіксавана ў форме „Дарагічын". Ці не можа гэта служыць пэўным доказам усходнеславянскага, а не заходнеславянскага паходжання назвы Драгічын?

Не выключаецца і яшчэ адзін варыянт тлумачэння. Польскі даследчык Я. Атрэмбскі лічыў, што ў назве Драгічын адлюстравана... яцвяжскае асабовае імя Драгут („Драгічын — мясцовасць, якая належыць чалавеку па імені Драгут"). Польскі вучоны зазначае, што асабовае імя „Даргель" было вядома ў прусаў; ён жа ўказвае на польскія імёны „Дрогомысл", „Дроговіт" і на паўднёварускае імя „Дорогобыть", ад якога ўтварылася найменне горада Драгобыча ў Прыкарпацці. Аб яцвяжскіх вытоках Драгічына (падляшскага) сведчыць і заўвага польскага гісторыка Яна Длугаша, які называў гэты горад „першай і самай галоўнай крэпасцю народа яцвягаў".

**А. РОГАЛЕЎ**

# КАЛІ КРАКАЎ БЫЎ „ТРЭЦІМ РЫМАМ”

Прафесійныя гісторыкі недалюбліваюць гісторыкаў-аматараў. Прычына не столькі ў нейкай абароне свайго палетка (хаця і такое бывае), колькі ў звычайна празмернай упэўненасці аматараў у сваю відушчасць. З другога боку, недахоп фармальных ведаў бывае карысны, бо дазваляе думцы лунаць без іхняга баласту.

Франк Кмятовіч, аўтар кніжкі пра распаўсюджанне славянскага абраду ў Польшчы і іншых славянскіх краінах*, належыць да тых, хто думае, што знайшоў ключ да тайны. Усе падзеі раннесярэдневяковай гісторыі Польшчы тлумачыць змаганнем лацціннікаў са славяннікамі. Як вопытны журналіст, робіць гэта займальна.

Тэзіс аб існаванні славянскага абраду ў Польшчы раней за лацінскі — не навіна. Наогул мала хто ў тым сумняваецца, таксама як і ў тым, што ў польскіх (ды іншых) летапісах больш замоўчваецца, чым гаворыцца. Таму не буду аспрэчваць паасобныя сцвярджэнні Кмятовіча. Магло быць так, як яму хочацца, магло быць зусім інакш. У прыватнасці сумняваюся ў існаванні ўсеславянскай мітраполіі ў Кракаве.

Праўду кажучы, аб хрышчэнні нашых продкаў ведаем старшэнна мала. Дзеля прыкладу пералічу, чаго не ведаем пра хрышчэнне Русі: няясна, калі менавіта ўзнікла руская праваслаўная царква, якая была яе першапачатковая арганізацыйная сістэма, як устанаўліваліся яе адносіны з Канстанцінопальскім патрыярхатам і што пераняла царква ад хрысціянства, якое існавала на Русі да хрышчэння кіяўлян. Няясна таксама, хто стаяў на чале царквы і хто назначаў яе галаву.

Найважнейшае: не вядома, калі, дзе і кім былі ахрышчаны Ольга і Уладзімір. Затое адно вядома напэўна: пра іхняе хрышчэнне ў Канстанцінопалі нават і не чулі!** Усё іншае пры тым, гэта ўжо дробязь, нявартая нават успаміну.

Памеры нашага няведання змяняюць гісторыю хрышчэння славян у сапраўдныя Дзікія палі, па якіх гуляць можа кожны, хто здольны крэпка трымаць у руцэ пяро.

На мой погляд, у кніжцы Кмятовіча не так важна, што ён піша, як тое, дзеля чаго ўзвёў ён у Кракаве „Трэці Рым”. Адказ банальна просты. Дае яго ўжо ва ўступе Станіслаў Дрыа-Лісецкі, відавочна аднадумнік будаўніка „Трэцяга Рыма”: „celem wskrzeszenia polskich tradycji obrządku słowiańskiego, co może stać się pomostem do dialogu z bratnimi narodami słowiańskimi oraz okazją do szerzenia wpływów polskich wśród pobratymców w dawnej Rzeczypospolitej”. Вось вам і „Trzeci Rzym”.

У сувязі з гэтым няўмольна ціснецца пад пяро яшчэ адна заўвага. Праваслаўныя колы ў Польшчы, у жаданні лепей замацаваць праваслаўе ў польскай культуры, гучным „ура” прымаюць кожны чарговы доказ існавання славянскага абраду ў старажытнай Польшчы. У той час папа-паляк абвясціў святых Кірылу і Мяфодзія патронамі хрысціянскай Еўропы нароўні са св. Венядзіктам. Дарэчы, адзінымі вернымі вучнямі славянскіх Апосталаў з'яўляюцца, Госпадзі змілуйся, харваты.

Асноўным пытаннем з'яўляецца цяпер не тое, хто хрысціў Польшчу, але тое, хто хрысціў Русь. Паводле Кмятовіча, зрабілі гэта, зразумела, ляхі.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

---

* *Frank Kmietowicz, Kiedy Kraków był „Trzecim Rzymem”, Wydawca: Orthdruk, Białystok 1994.*

** *Как была крещена Русь, Москва 1989.*

# ДВА ГРЫБЫ Ў БОРШЧ

Ужо трэці раз „Белавежа” правяла свой семінар у Цеханоўцы, у тамашнім Музеі сельскай гаспадаркі. Паколькі і мне некалі здарылася пісаць пра гаспадароў гэтага музея як пра рабаўнікоў беларускага дабра, даводзіцца адбрахаць сваю ранейшую пісаніну. Дабро нашае пералічанае і спісанае, чакае лепшых часоў. Падчас наведання экспазіцыі аказалася, што ў музеі перахаваўся нават драўляны конік Міры Лукшы, пра рэальнае існаванне якога па-за ўспамінам падпушчанскага дзяцінства нашая паэтэса нават і не думала. Заўважым пры нагодзе, што наш праваднік расказваў пра экспазіцыю па-беларуску, што было для нас прыемнай нечаканасцю. А як нас кармілі!

Вярнуўшы чэсць і гонар гаспадарам музея, перш за ўсё яго дырэктару Казіміру Ушынскаму, сапраўднаму падзвіжніку, які з нічога стварыў гэты аазіс, пяройдзем да справы.

Семінар быў нешматлюдным, ды ледзь не трэснуў, пакуль пачаўся, бо Міра Лукша павезла прафесара Уладзіміра Гніламёдава электрычкай на ўсход. Дзякуй Богу, схамянуліся ўжо ў Васількове. Выратаваў іх зычлівы ксёндз, які прывёз іх у Беласток на вакзал і кіраўнічка хуткага цягніка Беласток—Варшава, якая на дзве хвіліны затрымала яго адпраўленне, каб нашыя вандроўнікі паспелі да яго дабегчы.

Паміма сваёй нешматлюднасці (усяго дзесяць асоб), семінар быў аж надта змястоўны. „Белавежцы” запрасілі з Менска Алеся Разанава, паэта першай велічыні (ніжэйпадпісаны з'яўляецца ягоным адданым паклоннікам) і згаданага ўжо прафесара Уладзіміра Гніламёдава. На плячо прафесара ўскладзены вялікі цяжар: напісаць раздзел пра беларускую літаратуру ў пасляваеннай Польшчы ў „Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя”, якая рыхтуецца ў Менску. Цяжар гэты мае рэальнае вымярэнне чамадана, запоўненага кніжкамі „белавежцаў” і пра „белавежцаў”, перададзеных Гніламёдаву Уладзімірам Казберуком. Працы, падобныя гэтай, маюць вялікую моц стаўлення ацэнак, бо з іх пасля перапісваюць іншыя. Ясна ўсведамлялі сабе гэта ўсе прысутныя.

Такім чынам на семінары два дні гаварылася і пра творчасць „белавежцаў” і пра творчасць Алеся Разанава (які прачытаў свой пераклад адной з малітваў св. Кірылы Тураўскага, якога лічыць беларускім паэтам), пра выдавецкія справы ў Менску і наш лёс наогул. „Белавежцаў” цікавіў найбольш, вядома, лёс іхняй творчасці.

Прафесар Уладзімір Гніламёдаў развёў перад імі прывабны вобраз анталогіі літаратуры Беласточчыны, дзе знайшлі б месца ўсе жанры творчасці, ды ўсё ў багатым мастацкім афармленні. Рыба, думаю, клюнула.

Спрабуючы падвесці вынікі двухдзённых дэбатаў нейкім больш-менш сэнсоўным сказам у крытычналітаратурным жанры, спалучаю ў адно выказванні Алеся Разанава і Яна Чыквіна.

Усё зводзіцца да ўзаемадзеяння тэксту і кантэксту. У беларускай літаратуры існуюць тэксты, створаныя на працягу стагоддзяў, але іх трэба ўвесці ў беларускі кантэкст. Падобнага патрабуюць тэксты „белавежцаў”: увядзення ў агульнабеларускі кантэкст.

Ад семінара застаўся мне яшчэ ўспамін начной размовы пры вогнішчы з прафесарам У. Гніламёдавым пра „Скамароха” ды бальшавіка Дубовіка, беларуса па паходжанню. Паводле прафесара, які сам з-пад Белавежскай пушчы (ад Каменца), „Скамарох” быў акцёрам маскоўскага тэатра пад назвай „Скамарох” і быў агентам Камінтэрна. Супрацоўнічаў з Дубовікам, майстрам агентурнага дзеяння на трох кантынентах (між іншым спрабаваў ён заваяваць для рэвалюцыі Індыю). Чым даўжэй расказваў прафесар пра подзвігі бальшавіка Дубовіка, тым глыбей я канаў у ціхі адчай. Каб гэты Дубовік хоць нешта зрабіў у беларускім кантэксце...

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# У ПОШУКАХ ФАЛЬКЛОРУ

У пагодную суботу 11 чэрвеня г.г. адбылася ў Нараўцы занальная прэзентацыя фальклорных калектываў, арганізаваная Ваяводскім асяродкам анімацыі культуры ў Беластоку ў супрацоўніцтве з Гмінным асяродкам культуры ў Нараўцы. Была гэта другая частка 23-х ваяводскіх прэзентацый традыцыйнай і сучаснай народнай творчасці пад назвай „У пошуках фальклору”. Першая — адбылася ў Плонцы-Касцельнай, на той тэрыторыі выступалі польскія калектывы.

У Нараўцы выступіла трынаццаць калектываў (мела быць чатырнаццаць, але „Бярозкі” з Кнарыдаў чамусьці не даехалі): **з Нараўкі, з Чаромхі („Чарамшына”), „Арэшкі” з Арэшкава, „Фальварчанкі” з Фальваркаў-Малых, калектыў з Гарадка, „Тыневічанкі” з Тыневіч, „Вульчанкі” з Вулькі-Тэрахоўскай, „Родына” з Дубяжына, „Журавінкі” з Агароднічкаў, „Згодныя макі” з Райска, „Каліна” з Дашоў, „Цаглінкі” з Ляўкова і „Чыжавяне” з Чыжоў.**

* * *

Толькі адзін з прыехаўшых у Нараўку калектываў — „Фальварчанкі” з Фальваркаў-Малых, што ў чатырох кіламетрах ад Заблудава, — заспяваў польскія песні. Я падыходжу да іх, гавару з імі па-свойму, і яны мне адказваюць чысценька па-беларуску. „А чаму вы не спяваеце беларускіх песень?” — пытаюся са здзіўленнем. Адна з жанчын, быццам хочучы пацвердзіць слушнасць іх рашэння, кажа: „Nie umiemy!”, але Яўгіння Кавальская, прыслухоўваючыся, як цудоўна спяваюць жанчыны з Гарадка песню „Ой, баліць жа галованька”, сцвярджае: „Чаму не?! І мы павінны спяваць такія ж!” І жанчыны пачалі ўспамінаць, якія песні з пачутых тут у іх спяваюць ды якія з іх маглі б заспяваць і яны.

Цяжка разабрацца на нашай Беласточчыне, хто ёсць хто і хто сябе кім адчувае. Вось жа былі калісь у Дубяжыне „Дубочкі”, а ў мінулым годзе ўзялі дый перахрысціліся. І цяпер яны „Родына” (па-ўкраінску). Можа сапраўды ад гэтага ім палепшала (беларусы — народ сціплы і зямля ў іх слабенькая, а ўкраінцам, быццам, зямля сама родзіць). А песні? А песні спяваюць далей свае, тутэйшыя, ды і ў душы, казалі людзі, засталіся дубяжынцы беларусамі.

Спадабаліся мне жанчыны з Вулькі-Тэрахоўскай. Сёлета спаўняецца дваццаць гадоў дзейнасці іх калектыву „Вульчанкі”. Спяваюць: Вера Рошчанка (яна кіруе калектывам), Надзя Пашковіч, Вольга Верамчук, Анна Андрасюк, Валянціна Верамчук. Калектыў узнік у 1974 годзе. Спявала і восем, і дзевяць асоб, але тыя пяцёра ўсе былі ад пачатку. Збіраемся на рэпетыцыі ў доме культуры, хаця ён слабенькі ў нас, інфармуе мяне Вера Рошчанка. Я не ўвесь час кірую. Нас закладаў яшчэ Янка Крупа. Мы цяпер самі сабой кіруем. Усе з аднаго сяла, самі бяром колішнія песні і спяваем.

— А ці „Ніву” вы чытаеце?

— Чом ны чытаемо? — абражаюцца яны. — Як тылько „Ныву” сталы пысаты, то ўсёй чыэс чытаемо. А тэпер купляем в кёсках.

Відаць, жанчынам з Вулькі-Тэрахоўскай у чытанні „Нівы” не перашкаджае іх дыялект з відавочным уплывам украінскай мовы, так характэрным для пераходных гаворак.

—І шчэ спасібо для Крупы, што він нас заангажовав і мы до тэпер спываем. Добраго яму здоров'я! — жанчынам вельмі хочацца, каб Янка Крупа прачытаў гэтыя словы.

І яшчэ надта б хацелі падзякаваць Янку Крупу спявачкі з Дашоў, з калектыву „Каліна”. Гэта пры яго дапамозе ды яшчэ пры заангажаванні Міхася Вішанкі стварылі яны 15 гадоў таму свой калектыў. Сёлета, 14 студзеня, якраз адсвяткавалі юбілей. Але спачатку гэта быў толькі дуэт, у якім спявалі Валянціна Міцэвіч і Софія Кердалевіч. Сёння, апрача іх, спяваюць яшчэ Марыя Рошчанка, Ніна Міцэвіч, Еўдакія Маркевіч, Надзя Рошчанка. Усяго шэсць асоб і гарманіст Віктар Леанкевіч, які даязджае з Беластока.

Валянціна Міцэвіч здаўна кіруе калектывам. Найбольш збіраюцца ў яе хаце. Але і ў іншых таксама. Святліца ёсць, але зімой не грэюць. Ужо як якія імпрэзы арганізуюць, дык тады. Самаход заўсёды, калі трэба, дае бурмістр з Кляшчэляў. Там жа і выступаюць у доме культуры.

— Ого-го, гэтая кіраўнічка! Яна не толькі ў спевах першая, — падказвае



*Калектыў "Каліна" з Дашоў адсвяткаваў сёлета сваё 15-годдзе.*

# ВЫСПА Ў МАЗАВЕЦКІМ МОРЫ

Пра айца Аляксея Валкоўскага ўпершыню пачуў я ад свайго дзеда Кірылы недзе з трыццаць пяць гадоў таму. У свабодныя ад працы хвіліны любіў я распытваць у яго пра мінулае нашай вёскі Чорнай-Вялікай і наваколля, а ён патрапіў расказваць доўга і займальна. Дзед нарадзіўся на пяць гадоў да трагічнай смерці ў 1902 г. настаяцеля суседняга прыхода, а ў 1919 годзе ажаніўся з тамашняй прыхаджанкай, Пелагеяй Канюкай з Чорнай-Сярэдняй. Пры дзеду дажывала свой век прабабка Параскева Канюка, якая памерла ў шасцідзесятых гадах на дзевяностым годзе жыцця. Яна асабіста ведала айца Аляксея Валкоўскага і не раз расказвала аб тым, як на Грамніцы атруціў яго псаломшчык.

Пра рукапіс „Церковно-историческое и статистическое описание Чарнянской церкви и ея прихода" а. Аляксея Валкоўскага даведаўся я ў 1992 годзе, калі рыхтаваў да друку ў „Ніве" артыкул а. Рыгора Сасны і Дарафея Фёніка пра Чорную-Царкоўную („Ніва" н-р 14 і 15 за 1992 год). Неўзабаве надрукавалі мы інфармацыю аб намеры брацтва выпусціць кніжкай працу а. Валкоўскага і заклік да чытачоў фінансава падтрымаць гэтую высакародную ідэю. І вось нядаўна Брацтва праваслаўнай моладзі Варшаўска-Бельскай епархіі выпусціла друкам дакумент*), які належыць пяру айца Аляксея Валкоўскага.

„Церковно-историческое и статистическое описание..." даецца ў кнізе на мове арыгінала — па-руску — з захаваннем тадышняга правапісу, а на суседняй старонцы — паралельна — польскі пераказ тэксту. Папярэджвае яго ўступ, у якім змешчаны біяграфічныя звесткі пра аўтара, генезіс узнікнення дакумента, яго агульны змест і гістарычную каштоўнасць. У канцы кніжкі — зноскі і перадрук згаданага артыкула з „Нівы".

Апісанне Чарнянскага прыхода ўзнікла на хвалі дакументавання царкоўнымі ўладамі гісторыі праваслаўных прыходаў. У канцы 60-х гадоў мінулага стагоддзя ўлады Літоўскай епархіі загадалі духавенству весці прыхадскія летапісы. Гэтае распараджэнне было адноўлена яшчэ раз у 1880 годзе, а ў 1886 годзе ва ўсе прыходы і манастыры епархіі паступіў дакумент-інструкцыя „Об описании церквей и приходов Литовской епархии", паводле якога трэба было духоўным саставіць гісторыю сваіх прыходаў. У гэты час настаяцелем у Чорнай-Царкоўнай ужо год быў а. Аляксей Валкоўскі. Свяшчэннік, відаць, сур'ёзна паставіўся да гэтай задачы, паколькі апісанне зрабіў ён толькі праз пяць гадоў, на пераломе 1891/1892 г., раней парадкуючы прыхадскую бібліятэку, праводзячы археалагічныя раскопкі ва ўрочышчы „Цэрквіска" ды вывучаючы побыт сваіх прыхаджан.

У выніку такой грунтоўнай падрыхтоўкі ўзнік рукапіс, у якім на 53 старонках змешчана асноўная інфармацыя пра мінулае і тадышнюю сучаснасць Чарнянскага прыхода. Апрача геаграфічнага апісання, многа месца адведзена гісторыі царквы, яе вонкаваму і ўнутранаму выгляду, пераліку ікон, літургічнага начыння і аблачэнняў, змесціву бібліятэкі і архіва, гісторыі царкоўнага кліру. Асобны раздзел прысвечаны прыхаджанам — іх сацыяльна-эканамічнай і палітычнай сітуацыі, дэмаграфіі, звычаям, вопратцы, маральнасці і асвеце. Завяршае рукапіс недаконаны раздзел (або заканчэнне дзесьці прапала) аб царкоўна-прыхадскіх установах і брацтвах.

Ва ўступе Славамір Іванюк і Дарафей Фёнік, якія рукапіс падрыхтавалі да друку, са здзіўленнем заўважаюць, што ў чацвёртым раздзеле аўтар абышоў пытанне вуснай народнай творчасці, якое, паводле інструкцыі, павінна было ў ім апынуцца. Мяркуючы ўсё, што гэтае пытанне магло быць вынесенае аўтарам на канец працы, які да нашых дзён не захаваўся.

На маю думку, айцец Аляксей Валкоўскі не знайшоў ужо прыкладаў вуснай народнай творчасці мясцовага люду, таму і абышоў маўчаннем падраздзел аб ёй. Беларускія вёскі ў Драгічынскай зямлі знаходзіліся ў Кароне і на працягу стагоддзяў падвяргаліся паланізацыйным уплывам як з боку уніяцкай царквы, так і з боку суседніх дробнамаянтковых шляхецкіх вёсак. Выспавае палажэнне беларускіх вёсак сярод мазавецкага мора, ізаляцыя ад беларускага арэала ў Вялікім княстве Літоўскім прывялі да заняпаду мясцовай народнай творчасці і да пераймання звычаяў суседзяў, а таксама да ўзнікнення рэдкай ва ўсходнеславянскіх дыялектах з'явы мазурэння — вымовы з, с, ц замест ж, ш, ч — якая сфармавалася ў XVI ст.

Аўтар апісання некалькі разоў звяртае ўвагу на паланізацыйныя — адмоўныя і станоўчыя — з'явы ў яго прыходзе. Напрыклад, у пачатку сваёй працы ўплывы касцёлаў у Далубове і Рудцы лічыць ён *особенно вредными*, паколькі некаторыя прыхаджане прытрымоўваліся каталіцкіх постаў і свят, карысталіся шкаплерамі, ружанцамі, каронкамі і польскімі малітоўнікамі, а ў мясцовых гаворках засвойваліся польскія элементы. У іншым месцы аўтар сцвярджае, што „пад моцным ціскам суседняй каталіцкай Польшчы народ наш хутка пераняў польскія абычаі і ўклад жыцця, мову і каталіцкія вераванні, забываючы ўсё сваё роднае — рускае і праваслаўнае". Апісваючы штодзённае жыццё сваіх прыхаджан, а. Валкоўскі заўважае, што жыхары Чорнай вылучаюцца большай чысцінёю, ахайнасцю, а нават нейкай фарсістасцю і канстатуе, што нельга не бачыць у гэтым уплыў суседняй Польшчы і польскай шляхты. Адным словам, паланізацыя, падымаючы цывілізацыйны ўзровень, знішчыла на гэтым абшары самабытную народную творчасць.

У апісаным старонні народныя абрады мелі польскамоўнае афармленне, хаця ў штодзённым ужытку была яшчэ мясцовая беларуская гаворка. Найбольш багаты народны абрад, якім з'яўляецца вяселле, яшчэ да нядаўна спраўляўся ў нас у такі спосаб, які апісаў у канцы XIX стагоддзя Оскар Кольберг: з райкамі, апатрамі, убярачкамі, вянком і арацыяй на польскай мове. У апавяданнях дзядоў і бацькоў, у размовах з мясцовымі старажыламі не ўдалося мне знайсці прыкладаў існавання ў нядаўнім мінулым у гэтым наваколлі мясцовага самабытнага фальклору.

Дацэньваючы значэнне выдадзенай кніжкі для даследчыкаў нашага мінулага і ахвярнасць калектыву, які рыхтаваў яе да друку, не магу абысці маўчаннем некаторыя дапушчаныя ў публікацыі памылкі. Хаця ва ўступе агаворана, што пераклад з рускай на польскую рабілі непрафесіяналы, аднак, нават ім нельга рабіць моўныя ляпсусы. У раздзеле аб царкоўных аблачэннях словы **бумага, бумажный** перакладзены як *papera, papierowy*, калі трэба было **bawełna, bawełniany**. Такім чынам баваўняная напрастольная сурвэтка аказалася папяровай. Невядома чаму **чапец**, які насілі чарнянскія жанчыны, у польскай версіі называецца *turban*. Таксама яўрэйскі рамеснік **красильщик** хутчэй быў **farbiarzem** чым *malarzem*. Нехта перакруціў дыялектную назву паліто, якая павінна гучаць **корман** (а не *karman*). Гэтае слова і сённяшнем азначае кожнае доўгае верхняе адзенне ў выглядзе плашча. Апрача таго ў тэкстах сутракаюцца няправільныя напісанні назваў мясцовасцей (**Targowisk, Płonowo** а не *Torgowisk, Płunowo*), літарныя памылкі, якія мяняюць сэнс слова (напрыклад, *kepka* замест **kęcka**), арфаграфічныя памылкі і камп'ютэрна-механічныя, а не марфемныя, пераносы слоў. Пералічаныя хібы, думаю, не памяншаюць пазнавальную вартасць публікацыі, хаця могуць выклікаць у чытача раздражненасць неахайнасцю выдання. Відаць, выдаўцы не дацанілі або праігнаравалі ролю рэдактара і карэктара ў працэсе падрыхтоўкі выдання да друку.

**ВІТАЛЬ ЛУБА**

---

*) *o. Aleksy Wołkowski, Historyczny oraz statystyczny opis cerkwi i parafii w Czarnej Cerkiewnej, Czarna Cerkiewna — Bielsk Podlaski 1994.*

мне Казімеж Дэркоўскі, дырэктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку. — Яна ж яшчэ — намеснік старшыні рады горада-гміны ў Кляшчэлях, старшыня бюджэтна-фінансавай камісіі і зноў цяпер кандыдуе!

Дырэктар Дэркоўскі захоплены новай з'явай у беларускім музычным руху — калектывам „Чарамшына" з Чаромхі. Сапраўднае адкрыццё, кажа ён, а Юзэф Зысь, кіраўнік майстэрні музыкі, танца і фальклору ў ВААКу, яму памагае. Мадэрнізаваны фальклор, сучасныя рытмы. Рэпертуар стары, а выкананне сённяшняе. Гэтай 11-асабовай мешанай групай моладзі кіруе Варвара Кузуб — інструктар ГОКу ў Чаромсе. Выступілі яны ў звычайнай маладзёжнай вопратцы і нават без народных касцюмаў былі надзвычай пераканаўчыя. Каб хаця не завяла „Чарамшына", як колішняя цудоўная „Альбаросіка"!

* * *

Вельмі хваляваліся нашыя знаёмыя „Жуpавінкі" з Агароднічкаў. Гэта ж падумаць, ужо з хатаў збіраліся выходзіць, калі пазванілі з гміны, што аўтобус сапсаваўся. Хутчэй, у нервах, пабеглі на рэйсавы аўтобус, што ішоў у Беласток, а адтуль — на Гайнаўку, да Нараўкі. Паспелі!

Спявачкі хваляцца, што ўжо пасля юбілею, на якім была і „Ніва", адсвяткавалі ў клубе селяніна і Дзень маці, і Дзень дзіцяці. Для дзяцей падрыхтавалі спецыяльны рэпертуар. Але вось бяда, перажываюць яны, хочуць забраць у нас клуб селяніна. Гміне патрэбныя грошы, плануюць аддаць яго ў арэнду — на крамы, кавярню, мо пошту. Праўда, нам можа дазволяць там дзесь паспяваць, але ж з ласкі. Мо і плаціць давядзецца. А вёска сама гэты клуб будавала.



*Вяла канцэрт Аля Саевіч, а памагаў ёй, што відаць на здымку, Сцяпан Копа.*

Вельмі крыўдна ім і ўсе людзі з вёскі за імі. Але можа так усё і скончыцца, хаця бурмістр і абяцаў у бюджэце на будучы год выдзеліць ім 10—15 мільёнаў злотых. А што будзе — невядома. Хоць ты на выпусце збірайся!

І я вельмі добра разумею іх боль...

* * *

Усеабдымны Сцёпа Копа непакоіцца. Ужо ж апошнія калектывы спяваюць, а „Чыжавянаў" яшчэ няма. Вядома, сена. Ай-яй-яй, а там жа салістка ў іх якая! Вольга Ахрымюк. А сямейны квартэт Якімюкоў!

Ёсць! Прыехалі. Выступаюць апошнія. Сапраўды, у Вольгі Ахрымюк вельмі цікавы тэмбр голасу, цудоўныя старыя песні. Дзякуй „Чыжавянам", што прыехалі. А сена пачакае: надвор'е добрае.

І так агляд нашых калектываў, амаль усіх — ужо добра вядомых на Беласточчыне, закончыўся. Вяла яго Аля Саевіч, настаўніца Пачатковай школы ў Нараўцы, якая як музычны інструктар кіруе аж трыма дзіцячымі калектывамі. Яшчэ спяваў з даволі вялікай праграмай хор з БГКТ, яшчэ пару цёплых слоў сказаў дырэктар Дэркоўскі. Узнагароды ўручалі: Мікалай Паўвільч — войт Нараўчанскай гміны, Андрэй Скепка — дырэктар ГОКу ў Нараўцы і Яўген Валкавыцкі — дырэктар Пачатковай школы і яшчэ старшыня Рады гміны ў Нараўцы. Месц не прызнавалі, бо і не было гэта спаборніцтва. Быў гэта яшчэ адзін цудоўны дзень нашай песні.

* * *

А потым адбылася супольная забава ўсіх калектываў у прылепленых да Нараўкі Свінарох. Прыгожая сучасная вёска. Светлая паляна каля лесу, месца на вогнішча, танцавальная пляцоўка. Пад паветкамі — сталы, даюць бігос ды пепсі-колу. І можна смажыць на агні каўбаску.

Крыху падсілкаваўшыся, кожны калектыў у сваім куточку стараўся пераспяваць іншых. Але не было б гэта ў Свінароях! Бязлітаснымі чорнымі хмарамі наступала на радасны натоўп людзей камарыная зграя. Больш вопытныя спявачкі панавозілі розных камарыных сродкаў: жэле, аэразол, вадкасць, пазычалі суседзям, змазвалі адна другую, прапанавалі ўсім навокал. Ратаваліся хто як мог: завязвалі хусткі аж да носа, надзявалі нейкія скафандры, а адна накінула белы свіцер на галаву і выглядала як мусульманка. І ўсё гэта кружылася, віравала на танцпляцоўцы ў такт заглушваемай спевамі музыкі. Пайшла танцаваць і тая „арабка", ды толькі танец быў наскрозь беларускі — полька-трасуха.

Умее бавіцца наш народ, ды і да працы не апошні.

**АДА ЧАЧУГА**
**Фота аўтара**

# З МІНУЛАГА НАРАЎКІ І АКОЛІЦ

## Частка IV

### Па слядах памяці

Белавежская і Лядская пушчы на многія стагоддзі маладзейшыя за пасяленне тут людзей і іхнюю актыўную дзейнасць. Пра многае могуць сказаць назвы палеткаў ды лугоў: Аполымя, Баркі, Выжарыэ, Зубрыёўшчына, Майдан або такія назвы ўрочышчаў: Гайстрава Полька („гайсцёр" — чорны бусел), Жабін Багон і Круглы Багон, Калена, Пажарніца, Шведава (на гэтым апошнім урочышчы ўзвышаецца аграмадны курган, а легенда кажа, што ўзвялі яго шведы), Бахурова Горка — усе яны каля вёскі **Альхоўка**.

Гэтае сяло знаходзіцца ў чатырох кіламетрах на ўсход ад Нараўкі. З вуліцы відаць шчыльную сцяну Белавежскай пушчы. А ў тутэйшай яе частцы, якая завецца Броўск, у 37 і 39 кварталах ёсць яшчэ — апрача таго, што ва ўрочышчы Шведава — некалькі іншых курганоў. Археолагі сцвярджаюць, што курганы ў пушчы адносяцца пераважна да X—XII стагоддзяў.

Пачатак Альхоўцы дало, — піша ў сваім „Краязнаўчым слоўніку" мгр Мікалай Гайдук („Ніва" н-р 28 з 1975 года), — нейкае паселішча службовых людзей, абавязаных да працы ў пушчы. Маглі быць гэта асочнікі-стральцы, што яшчэ пры вялікіх князях літоўскіх былі пастаўлены, каб сцерагчы пушчу ад зладзеяў і тых, хто без княжацкага дазволу захацеў бы схадзіць у яе нетры на паляванне. Бадай да тых часоў адносіцца легенда, якую я пачуў ад тамашніх жыхароў-старэйшын пра стральца і змея з залатой каронай на галаве.

Не ў легендзе, а ў пісаных дакументах чытаем, што вёска Альхоўка належала ў 1786 годзе да фальварка Нараўка. Меў яго тады ў сваім уладанні адзін з князёў Масальскіх. Жылі людзі тут бедна: з бульбы на квас перабіваліся. Вёска ўзнікла каля 1757 года.

А вось паданне, якое захавалася ў памяці альхаўчан пра ўрочышча Калена. У XIX стагоддзі рускія інжынеры рабілі памеры Белавежскай пушчы, дзелячы яе прасекамі на кварталы. Адзін з іх пракладваў прасеку, пачынаючы ад Белавежы, другі ж ішоў з прасекай ад Семяноўкі. Абедзве прасекі не выйшлі проста адна на другую, атрымаўся загіб, ці інакш — „калена".

У міжваенны перыяд альхаўчане ўтрымоўваліся між іншым з працы ў лесе ды вывазкі драўніны. Вазілі лес аж са Свіслацкай пушчы ў Нараўку, а карпіну ў майдан, што быў на Бару. Некаторыя займаліся дойлідствам, а таксама выцесваннем дубовай клёпкі на бочкі. Вакол была такая топель, што дровы ва ўрочышчы Выжары ўлетку нарыхтоўвалі, у Нараўку ж ездзілі „выбрэдамі", гэта значыць пакрытай вадою лясной дарогай.

У 1942 годзе гітлераўцы вывезлі ўсіх жыхароў, а вёску зраўнялі з зямлёю. Жыццё вярнулася сюды толькі пасля вызвалення. Старанныя і працавітыя альхаўчане нанава адбудаваліся.

* * *

**Ахрымы** — вёска на левым беразе ракі Нараўка, у шасці кіламетрах на паўночны захад мястэчка Нараўка. Здаўна жыве тут шмат сялян па прозвішчах Ахрымюк і Бельскі, ёсць таксама Несцярук, Кардаш, Кананюк, Адамюк, Бачынскі. Назвы бліжэйшых да вёскі ўрочышчаў у Лядскай пушчы: Багны, Барэзіна, Бугор, Дубіннік і Ляцка ды палеткаў: Барок, Навінка, Ганчарыэ, Пад Бачынскімі.

Ахрымы паўсталі пасля таго, як па загаду караля Казіміра Ягелончыка спецыяльная камісія вызначыла межы паміж Гродзенскай і Бельскай пушчамі ў 1475 годзе. Іменна тады паўночная і ўсходняя граніцы колішняй дрымучай Бельскай пушчы былі ўстаноўлены па рэках: Супрасль, Нараўка (ад месца, дзе яна ўпадае ў Нарву), Велічкоўка, Крыніца і Лясная, а далей уздоўж лініі Ягаднікі — Істок — Вітава — Курашава каля Палічнай. Пасля нанясення „рубяжоў" (зацёсаў на дрэвах) і выканання гранічных копцаў, бельскі ляснічы паклапаціўся пра тое, каб усходняя мяжа пушчы належным чынам ахоўвалася ад лясных зладзеяў і непажаданых аматараў палявання.

Гэта ён пасяліў тут асочнікаў, заданнем якіх было наглядаць (сачыць) за пушчай, правяраць уязджаючых і ўваходзячых у яе. Трэба меркаваць, што адным з першых асочнікаў і яе першапачынальнікам, які тут пасяліўся, быў нейкі Ахрым (царк. Ефрем). Ён даў пачатак вёсцы і цяперашняму „роду" Ахрымюкоў. Магчыма, што на падмогу Ахрыму быў тут паселены жыхар з ваколіц Бельска і ён запачаткаваў сённяшніх Бельскіх.

Асочнікам у тыя часы жылося някепска. Іх надзялялі паловай або і цэлай валокай зямлі (валока — ад 20 да 30 гектараў), яны былі звольнены ад падаткаў і іншых павіннасцей. Але служба асочнікаў не належала да бяспечных. Крадзяжы здараліся часта. Навакольныя сяляне не маглі абысціся без драўніны на будынкі, на паліва. Употайку палявалі на лясных звяроў, цішком займаліся бортніцтвам.

Калісь цяжка было пражыць са сваіх пясчаных палосак. Падпіраліся працай у пушчы, мужчыны пры высечцы, жанчыны пры пасадцы лесу. Хатні дабытак пасвілі таксама ў пушчы. Коней вадзілі на „начлег", кароў жа, прывязаўшы ім на шыі званкі, на ранкі. Нават і свіней пасвілі ў дубовым лесе. Бывала, згубіцца ў лесе навесну свіння, а навосень прыходзіць з пушчы з чарадою паласаватых парасят ад дзіка.

У вёсцы быў сталяр, які рабіў вокны, санкі або шыкоўныя „шыткі". Быў таксама і ганчар, што вырабляў гладышы, верцехі, міскі. Адзін з жыхароў займаўся кавальствам. Тады яшчэ сярпы, косы ды матыкі не сыходзілі з поля. Апрача гэтага мужчыны ішлі на арэльку. „Пасы" вязалі ў біндзюгах на Нараўцы, Лутоўні, Гвознай ці Арлоўцы і гналі аж у Тыкоцін. Жанчыны ўпраўляліся з гаспадаркай, а дзеці і старыя або пасвілі быдла і свіней, або збіралі ягады, арэхі, грыбы і жалуды (апошнія на корм для свіней). Грыбыгубы з граба сушылі, вымочвалі, выбівалі малатком, зноў сушылі і з гэтага мелі „чыэр" (губку да выкрэсвання агню). Крэсіва рабілі з касы, а скалкі-крамухі знаходзілі ў полі. Нават у печы або ў лесе агонь раскладвалі ад крэсіва. Дзеля гэтага на тлеючую губу сыпалі сухое асінавае парахно і раздувалі. Увосень збіралі жалуды, сушылі, малолі ў жорнах і гэтую муку дадавалі пры выпечцы хлеба. Горкі гэта быў хлеб і несалодкае жыццё на ім, лапцюжнае, у плеценых з бяросты пасталах...

З першых дзён гітлераўскай акупацыі ў Лядскай пушчы сталі базаваць партызаны. Немцы вёску пацыфікавалі, загадалі разабраць будынкі, людзей жа выселілі ў Ляўкова або ў Беласток.

Жыццё вярнулася ў гэты куток толькі пасля вызвалення. Цяжка ішла адбудова, але ўсё ж з году ў год прыбывала будынкаў, зарунелі новымі пасевамі загоны. Цяпер Ахрымы — гэта ціхая, працавітая вёска.

*(заканчэнне будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# ПЛЁННЫЯ СТАРОНКІ

Гартаючы старонкі „Нівы" кожны чытач можа там знайсці нешта цікавае і карыснае. У 23 нумары ад 5 чэрвеня я не знайшоў ні адной „белай плямы", усе апублікаваныя матэрыялы былі цікавыя і займальна напісаныя. Варта пахваліць іх аўтараў. Першы з іх — „З мінулага Нараўкі і аколіц" Я. Целушэцкага. Гэты цыкл вельмі ўзбагачае змест часопіса, нашыя веды пра гісторыю і рэчаіснасць рэгіёна. Аўтар добра ведае гэтыя землі, сам родам з-пад Нараўкі, трымаецца мэты: паказаць гісторыю, абычай, фальклор, настроі людзей. Нарысы Целушэцкага лёгка чытаюцца, напісаны проста, ясна і займальна. Янка — майстар паказаць спадчыну і лёсы людзей.

Другі матэрыял, які мяне асабліва зацікавіў, гэта тэкст з цыкла Алеся Барскага пра паэта Уладзіміра Клішэвіча. Вельмі добра, што мы можам столькі даведацца пра такога паэта. Тэкст Барскага напісаны добрым стылем, не „сухім", хоць навуковы. Думаю, што ў будучыні варта было б выдаць кнігу пра невядомых ці мала вядомых нам паэтаў, часта выклятых за палітыку і погляды. Можа, А. Барскі напісаў бы па-сучаснаму новую гісторыю беларускай літаратуры? Інакш жа трэба глянуць і на Коласа, і на Купалу... Колькі фактаў было прамоўчаных і перакрыўленых, хоць бы смерць Янкі Купалы. Жадаю поспехаў у гэтым Алесю Барскаму!

Трэці матэрыял — „Лёс" пяра Андрэя Гаўрылюка. Так, гэта праўда, наш лёс — не з лёгкіх. Бывае, часта мы самі яго такім ствараем. Чаму? Бо не ведаем, каму служым — Богу ці Мамоне-д'яблу! Спрачаемся абы за што, аддаем свае галасы за чужынцаў. А нянавісць — пачуццё д'яблава. Мо і мне хто закіне, што я зачаста спрачаюся на старонках „Нівы". Але няхай усе ведаюць, што ў мяне да нікога жалю і крыўды няма, нават да тых, хто мяне хоча лічыць ворагам. Памятаеце, я пісаў, што месца „Нівы" не праз сцяну з „Салідарнасцю", а на Варшаўскай, у будынку ГП БГКТ. Думаю ўсё ж, што ў Таварыстве ёсць нямала разумных і адданых беларусаў, і час памірыцца. І забыць кепскае мінулае. А. Гаўрылюк напісаў, чаму мы прайгралі, і калі мы шмат чаго не зменім, зноў будзем у пройгрышы! Хіба гэта ўсім ясна?!

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

## Частка XII

Прыступаючы да характарыстыкі амерыканскага перыяду ў творчасці паэта, сутыкаемся з сур'ёзнай дылемай. Не ведаем, якое ўражанне выклікала на ім веліч Амерыкі. Можам думаць, што падзейнічала на яго як прорва: вабіла і адпіхала. Вабіла сваёй магутнасцю, веліччу гарадоў, якасцю дарог, багаццем людзей і магазінаў, колькасцю аўтамашын, навізной тэхнікі, нацыянальнай разнароднасцю. Адпіхала немагчымасцю дамовіцца не ведаючы англійскай мовы, асабістай яго бяздомнасцю, неўладкаванасцю, крайнім рацыяналізмам, нізкім станам ягонага пачаткоўкага бытавання.

Трэба сказаць, што практычна ўсе беларусы, сутыкнуўшыся з такой дылемай, не заламалі рук. Узяліся напорыста за работу і паступова ды сістэматычна паляпшалі свой побыт, паволька ўрастаючы ў рэчаіснасць. Сярод такіх беларусаў апынуўся і Уладзімір Клішэвіч.

Аднак на самым пачатку быў момант разгубленасці. Выявілася яна ў творчасці паэта. Яго муза не зарэагавала на амерыканскую рэчаіснасць. Як бы ўцякаючы ад новай факталогіі і ад самога сябе, піша ён у 1950 годзе вершы, якія загучэлі поўным дысанансам у адносінах да рэальнага свету. З-пад яго пяра выходзяць такія вершы як: „Грэцыя", „Смерць Сакрата", „Рым". Паэт выразна ўцякае ў гэтых творах у старажытны свет, каб адгарадзіцца поўнасцю ад надзённасці. У вершы „Грэцыя" паэт захапляецца харастом мастацтва гэтай краіны.

*Нас раздзяляюць з Грэцыяй вякі,*
*І мы ўсе ходзім к элінам у госці.*
*І вучацца у іх нашчадкаў мастакі*
*Тварэнню вечнай прыгажосці.*

Магло б здавацца, што так трактуючы старажытнасць, паэт знаходзіць у ёй і спакой, і асалоду. Аднак санет „Смерць Сакрата" адводзіць нас ад гэтай думкі. Гаворачы аб самагубстве філосафа пры дапамозе атруты, пісьменнік выразна адклікаецца не да гармоніі, а толькі да драматызму старажытнасці.

Апошні твор з гэтага цыкла „Рым" — гэта зрыфмаваны афарызм, збудаваны па прынцыпу парадоксу.

*Магутны Рым у прошлым велічава*
*ішоў за Грэцыяй далёка ззаду,*
*стварыў нашчадкам ён класічнасць права,*
*класічна сам прыйшоў да заняпаду.*

Бачым, што гэтаму вершу не чужы дух камізму і жарту.

На самой справе, Уладзімір Клішэвіч ніколі не адкрыўся на Амерыку. У сутнасці, да канца жыцця Амерыка не ўварвалася шырэйшым струменем у яго паэзію.

Усё тое, што напісаў у амерыканскі перыяд сваёй творчасці, было падыктавана даўнейшым разгонам яго паэзіі. Нават тады, калі матэрыяльнае жыццё выгнанніка-паэта палепшылася і ўстабілізавалася, не перастаў ён сумаваць па пакінутай далёка айчыне.

Адна са схільнасцяў яго эміграцыйнай творчасці мела прыродаапісальны характар. Чытаючы вершы гэтага цыкла, досыць цяжка сказаць, ці адносіліся яны да амерыканскай ці да беларускай прыроды. Прыкладам такой нацыянальнай неакрэсленасці можа быць прыгожы верш „Захад сонца".

*Дзень у цяжкай стоме к ночы*
*адыходзіў,*
*Не шумелі лісцем белыя сады.*
*Дагарала квола сонца на заходзе,*
*Патанула ціха ў возеры вады.*
*Заціхае песня галасоў дзявочых,*
*Рэхам пралящела звонка у бары.*
*Выступала ў чорным каралева ночы,*
*Запаліўшы ў небе бляск зары.*
*Сумна адазваўся толькі белы лебедзь*
*Песняй развітальнай у вячэрні час,*
*Было цёмна ўсюды, было светла ў небе,*
*Калі дзень апошні непаўторна згас.*
*З гэтым днём у вечнасць адышло*
*нямала...*
*Неяк непрыкметна раптам дня*
*не стала.*

Некаторыя з рэаліяў, выступаючых у вершы, маглі б сведчыць аб яго беларускім паходжанні. Прыкладам можа быць радок: „Заціхала песня галасоў дзявочых". Аднак верш узнік 13.VIII.1950 года ў Нью-Йорку і мусіць быць залічаны да амерыканскага перыяду.

Сказанае можна было б аднесці і да такіх пейзажных вершаў, як „Цішыня над вадою нямая", „У вырай", „Белая кветка", „Залатая восень".

Усе гэтыя творы ўтрыманы ў атмасферы рэфлексіўнага задумення над харастом прыроды і ў сваіх мастацкіх прыёмах як бы займаюць сярэднюю пазіцыю паміж пейзажнымі вершамі Максіма Багдановіча і Наталлі Арсенневай.

Галоўная выяўленая ў іх ідэя — думка аб вялікім прыгожым адзінстве прыроды, у якой расліна ці дрэва і чалавек — гэта з'ява таго самога натуральнага і філасофскага парадку. Паэт у нічым не супрацьпастаўляе сябе пейзажу і, наадварот, акцэптуе з ім сваё арганічнае яднанне.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# ЯК ЛЯСНУЎ, ЯК СВІСНУЎ...

Калісь, як у каго было золата, а не меў каму яго перадаць, хаваў яго і заклінаў. Былі такія, што казалі, каб узяць тое золата, трэба на тое месца, дзе яно ляжыць, прынесці сто галоваў птушыных, ці нешта такое...

Адзін чалавек, заклінаючы сваё золата, сказаў так:

— Калі хто захоча ўзяць непатрэбны мне ўжо скарб, хай свісне ды лясне рукой аб паветра.

Прайшлі гады пасля смерці гэтага чалавека. На тым месцы, дзе калісьці схаваў ён свой скарб, збудаваў хату селянін і пасяліўся ў ёй. І пачалася бяда! Як толькі сцямнее, хтосьці ходзіць па хаце, тупае і прыгаварвае: „Як лясную, як свісную...". І так усё аж да раніцы. Не мелі куды дзецца гаспадары, ды як жа пакінуць новую хату? Прыйшлося ім мучыцца з прывідам. Не дапамагалі і малітвы святара, і высвенчванне хаты.

Аднойчы восенню прыехала ў вёску царскае войска. Прыйшлося ім пераначаваць перад дарогай. Пайшлі салдаты шукаць начлегу па хатах. Папрасіліся пераначаваць і ў нячыстым доме. Гаспадар не скрываў перад імі сваёй бяды — быў перакананы, што сну служывым не будзе. Зморыныя салдаты памаліліся і зваліліся спаць.

Яшчэ перад світаннем зайграла труба сігналіста. Усе кінуліся апранаццца. Адзін з салдат, які начаваў у „страшным" доме, заўсёды спазняўся на збор, губляў рыштунак, словам — быў найгоршы ў атрадзе. Так і сёння ён не мог знайсці ботаў. Раззлаваўся. А тут яшчэ нехта прыгаварвае: „Як свісную, як лясную"! Злосны салдат як не свісне ды зараве:

— А бадай ты прапаў, аддай мае боты, дурань, а то як лясну табе па тваёй дурной мордзе! — і замахнуўся з усёй сілы.

Перад ім нікога не было, „лясную" у паветра. Тады нешта забрахала і пачалі сыпацца залатыя манеты.

За салдатам прыехалі потым брычкай афіцэры. Цяпер лічылі яго найлепшым з усіх — не пабаяўся нячыстае сілы!

Салдат частку золата аддаў гаспадарам, за іхні страх. У доме было цяпер ціха, селянін зажыў спакойна і багата.

**АЎРОРА**

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Мая сяброўка вельмі хворая. Яна ляжыць у бальніцы. А мне вось прысніўся такі сон. Гляджу ў акно, а тая сяброўка ў сваім пакоі засланяе акно (яе блок насупраць майго — так у сапраўднасці). Апранута ў чорнае адзенне. І раптам як бы вылятае праз акно ў сваім пакоі і ўжо ў маім апынулася. Бярэ мяне за руку і кажа, каб я ішла з ёю. Я аднекваюся, не хачу, кажу: „Не пайду з табою". І прачнулася. Прашу вельмі, Астроне, дай адказ як мага хутчэй, бо вельмі непакоюся.

**ВЕРА**

Даражэнькая Вера! Твой сон не прадвяшчае нічога добрага. Акно сніць — і так кепска, абазначае маркоту і сум, а тут твая сяброўка яго яшчэ і засланяла. І тая яе чорная адзежа выглядае кепска. Можа абазначаць хваробу ці яшчэ штосьць горшае. Можа б гэта ўсё датычыла толькі яе, тым больш, што, як ты пішаш, яна вельмі хворая і ляжыць у бальніцы. Калі б... не вылецела яна праз акно ў сваім пакоі і не апынулася ў тваім. Яшчэ горш, што ўзяла цябе за руку і хацела пацягнуць за сабою. Дзякуй Богу, што ты адмовілася і ў пару прачнулася, бо мо б яшчэ, чаго добрага, цябе з сабой забрала.

**АСТРОН**

# ВІРАВАНКА



1. граніца, мяжа, 2. рака ў Віцебску, 3. дзяржава з Міланам, 4. лодар, гультай, 5. каркас, касцяк, 6. лясная пеўчая птушка, 7. возера ў Азіі, 8. кнот у стэарыне, 9. жыхар Каўказа, 10. жыхар Бішкека, 11. занятак дзяцей.

**(ІІІ)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 19 н-ра:**

**Гарызантальна:** какаду, сінька, лапата, мана, мара, Вадохрышча, пала, дама, „Іліяда", кампот, рызыка.

**Вертыкальна:** Калыма, дула, сіта, камора, паліхромія, навала, Мачада, пазыка, матыка, ілот, дары.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# Я ІМ ЗАЙЗДРОШЧУ!

„Калі хочаш, каб разжыцца, трэба ведаць з кім жаніцца" — так гавораць у нас, на Сакольшчыне. І я хачу нашым чытачам расказаць пра адно сужонства, якое дажыло да старых гадоў.

У адной вёсцы жыла дзеўка, якую называлі Сарокай, бо многа яна сакатала. А ў другой вёсцы жыў хлопец, Бусел па мянушцы, а гэта таму, што быў ён даўгавязы. Яны і пажаніліся, але суседзі жартавалі, прыгаворваючы: „Яны не разжывуцца, бо ці ж бусел з сарокаю могуць мець патомства, буслянят або сарачанят?" Дык праўда, пераўжылі яны разам сорак пяць гадоў, але нічога ім не нарадзілася. Бусел памёр, Сарока стала ўдавою. Здала яна гаспадарку за пенсію, але адной, аднак, жыць цяжка. Падмовіла яна маладшага ад сябе мужыка, якога Баран называлі, стаць жыць разам. І пачаў тады Баран прыбягаць да Сарокі на начлег, або наадварот — Сарока да Барана. Жывуць яны так ужо некалькі гадоў, але зноў не могуць разжыцца. Відаць, гады не тыя. А можа і з маладых гадоў Сарока не тыя яйкі несла.

Цяпер, калі Сарока дастане пенсію, дык удваіх папіваюць і... А што ім засталося, калі няма каму жыць і на каго рабіць. Часам я ім зайздрошчу такога жыцця, але што ж ты зробіш... Трэба так жыць, як набяжыць. Не трапілася мне другая Сарока.

**НІЯК**

# ГАРЭЛКА — ДАЗВОЛЬ ЖЫЦЬ!

Алкагалізм — хвароба нашай цывілізацыі, кашмар усёй грамадскасці, няшчасце многіх сем'яў. Аб шкоднасці алкагольных напіткаў напісалі ў „Ніве" Ганна Кандрацюк і Аляксандр Максімюк („Мора народнага гора" — н-р 23 і „Запой" — н-р 22). У сваіх артыкулах паказалі яны ўсю складанасць праблемы і яе трагічныя паслядоўнасці. Ад сябе хачу дадаць, што гарэліцу п'юць не толькі на Бельшчыне. Яе спажываюць у кожнай мясцовасці і робіць гэта амаль усё дарослае насельніцтва.

А як справа маецца ў чыгуначнай Чаромсе? Спачатку заглянем на Раял-пляц — так чарамшукі называюць мясцовы рынак. А там на кожным прылаўку сустрэнеш розныя віды алкагольных напіткаў. Прадаюць „рускія", заклікаючы: „Пан, купі водку! Хочаш, купляй польскі спірт..." І людзі купляюць, бо, вядома, танней. За адны 85 тысяч злотых можна купіць бутэльку польскага спірту, і з яго зрабіць дзве бутэлькі добрай гарэлкі на 48 градусаў. А за сто тысяч можна купіць нават літровы буталь „Раяла".

Для выпіўкі кожная нагода добрая. Хопіць атрымаць палучку і тады пачынаецца... з чаркі, а канчаецца на „бутэльцы на рыла". Ёсць і такія выпівохі, якія наштодзень пасябравалі з гарэліцай. Вось, напрыклад, мой добры знаёмы па рабоце. Ён — малады адукаваны чалавек, на добрай пасадзе. Пастаянныя выпіўкі давялі да таго, што начальнікі скінулі яго з пасады, але „нячыстай сілы", аднак, ён не адрокся. Далей пахмяляецца. Сустрэўшы яго бацьку, пацікавіўся я лёсам сябрука.

— Крышка! — кажа сумна бацька. — З работы не ідзе ў хату, а толькі „на піва". Позна вяртаецца дамоў, у гаспадарцы не памагае. Калісьці быў з яго талковы хлопец. Не ведаю, што з ім сталася...

Такіх прыкладаў у нашым асяроддзі хоць адбаўляй. Глянем вакол сябе. Амаль кожны дзень сустракаем п'яных на вуліцы, у цягніку, на чыгуначнай станцыі, а нават на рабоце. Не гавару тут аб базарах Бельска-Падляшскага ці Гайнаўкі. Там ужо зранку можна ўбачыць вандруючых асобеняў з бутэлькамі ў руках. Амаль ніхто не звяртае на іх увагі. Людзі ўжо прывыклі да такога краявіду, а сторажы грамадскага парадку таксама іх не заўважаюць.

Чаму грамадствам завалодала нячуласць на хібы нашага жыцця? Няўжо немагчыма выкараніць з нашага жыцця, хаця б у нейкай ступені, адмоўныя прыклады п'янкі?

Не дасягнем гэтага, калі з малых гадоў будзем сваіх сыноў прывучаць, „як стаць сапраўдным мужчынам", аб чым расказваў дырэктар бельскай бальніцы ў артыкуле Аляксандра Максімюка „Запой".

П'яны чалавек — гэта хворы чалавек. Нашай дзяржаве патрэбнае здаровае грамадства. Усім зацікаўленым змаганнем з празмерным п'янствам прапаную тэлеперадачу Гальшкі Васілеўскай „Гарэлка — дазволь жыць!" Няхай яе загаловак стане лозунгам для аматараў „моцных напіткаў". Мо тады і дасягнем мэту: станем здаровым грамадствам!

**УЛАДЗІМІР СІДАРУК**






*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ЯЕШНЯ З КРАПІВОЙ**

Прадукты:

*15 дэкаў маладой крапівы,*
*1 малая цыбуліна,*
*пасечаная зяляніна (кроп, зялёная цыбулька, пятрушка, сэлер),*
*2 яйкі,*
*соль і перац,*
*тлушч для смажання.*

Крапіву памыць, зварыць, адцадзіць і пасячы. Падсмажыць яе на патэльні разам з пасечанай зялянінай, заліць разбоўтанымі, пасоленымі яйкамі. Хвіліну смажыць, не мяшаючы, пасля чаго ўставіць патэльню на хвіліну ў гарачую духоўку.

**ГАСПАДЫНЯ**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1994 r. upływa 20 sierpnia 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

